3 кастрычніка 2014 | № 37 (406)

# Новы час

novychas.info

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

Феміністская вясна, якая прыйшла ўвосень стар. 13

ISSN 2218-2144

**4 НАВАТ НЕ ДУМАЙЦЕ ЗДАЦЬ МАРЫУПАЛЬ**

Майдан выклікаў у марыупальцаў раздражненне, яго перамогу ўспрынялі як уласную паразу. Анексію Крыма сустрэлі з радасцю, з'яўленне ДНР — з энтузіязмам... Амаль тры месяцы існавання ў ДНР гэты энтузіязм моцна астудзілі

**5 АЛЕГ БАСІЛАШВІЛІ: «БЫКАЎ — ВЯЛІКІ ПІСЬМЕННІК»**



Быкаў быў першы — ён як вяршыня піраміды

**6 АЛЕСЯ ПАЛУЯН: «ЛЮДЗЯМ ЁСЦЬ ЧАМУ ПАВУЧЫЦЦА Ў САБАК»**

У нашай краіне развіццём каністэрапіі — метадам лячэння і рэабілітацыі з выкарыстаннем спецыяльна выбраных і навучаных сабак — займаюцца лічаныя людзі. Адна з іх — Алеся Палуян.

**14–15 ДУБЛІНСКІЯ НАТАТКІ**

Чым прываблівае Ірландыя? Морам і маляўнічымі пейзажамі. Ірландскай гасціннасцю, кельцкімі легендамі. Музыкай і танцамі. Ці змагарнай гісторыяй? Гэты брэнд, у адрозненне ад іншых, не прадстаўлены на сувенірах.

# Хто першы «тармазне» ЕАЭС?

**Чым бліжэй ратыфікацыя дамовы аб Еўразійскім эканамічным саюзе, тым больш жадання ў «саюзнікаў» адзін аднаго падмануць**



Сяргей ПУЛЬША

Расійскія «думцы» спадзяюцца, што ратыфікацыя дамовы пра ЕАЭС пройдзе «без сучка, без задоринки». Кіраўнік камітэта Дзярждумы па справах СНД і еўразійскай інтэграцыі Леанід Слуцкі паведаміў пра графік зацвярджэння дакумента. Дзярждума яго ўжо ратыфікавала. Першымі днямі кастрычніка гэтае пытанне разгледзеў парламент Казахстана, і 7 кастрычніка, меркавана, тое ж зробіць Палата прадстаўнікоў Беларусі.

Але ўсё не так проста. Напярэдадні адкрыцця чарговай сесіі Нацыянальнага сходу Аляксандр Рыгоравіч пагутарыў з парламентарамі. Паводле яго слоў, пры фармаванні дагаворна-прававой базы Еўразійскага эканамічнага саюза дэпутаты павінны стаяць на варце інтарэсаў Беларусі.

«Нам з вамі, можа, нават у бліжэйшы час, у гэтыя дні, прыйдзецца працаваць над ратыфікацыяй адпаведных міжнародных пагадненняў. І ваша задача — з ужываннем усіх парламенцкіх інструментаў садзейнічаць фармаванню дагаворна-прававой базы Саюза, пры гэтым трэба стаяць на варце нашых інтарэсаў», — заявіў Лукашэнка. І запатрабаваў: «Калі вы будзеце бачыць, што дзесьці дапушчана памылка пры падрыхтоўцы гэтага дакумента (Дамовы аб ЕАЭС), а ён вельмі важны, вы, калі ласка, інфармуйце і мяне ў тым ліку і не спыняйцеся ні перад чым, абараняючы інтарэсы беларускай дзяржавы».

То бок, парламенту празрыста намякнулі — можаце і не ратыфікаваць гэты дакумент, прынамсі, падумайце і не спяшайцеся. Прапанова «падумаць» над інтэграцыйным праектам — гэта нешта новае ў практыцы беларускага кіраўніка. Раней ён проста «на ўра» і без асаблівых ваганняў падмахваў усе паперкі з чароўным словам «інтэграцыя».

А звязана гэта, як заўсёды, з грашыма. Дакладней, з так званым «нафтавым манеўрам» Расійскай Федэрацыі.

Разам са стварэннем ЕАЭС Лукашэнка і Пуцін дамовіліся, што пастулова з Беларусі здымаюцца плацяжы ў бюджэт Расіі экспартнай пошліны за продаж нафтапрадуктаў, зробленых з расійскай нафты. Гэтая сума складае $3–4 мільярды ў год. У 2015 годзе з гэтай сумы ў Беларусі павінны застацца $1,5 мільярда, а потым, пастулова — і ўсе грошы экспартнай пошліны. Нас гэта цалкам задавальняе.

Але Расія таксама не хоча губляць такія грошыкі, тым больш у такі напружаны час, калі трэба карміць новаздабыты Крым і падкідваць зброю і наймітаў Данбасу. Таму расійцы прыдумалі «нафтавы манеўр». Сутнасць яго ў тым, што экспартныя пошліны на нафту і нафтапрадукты істотна зніжаюцца, а замест іх уводзіцца падатак на здабычу карысных выкапняў. То бок, нафта ўнутры Расіі даражэе, і адпаведна, даражэе і для нас. А экспартныя пошліны, на якіх мы мелі намер зарабіць прынамсі $1,5 мільярда, імкнуцца да нуля, і ні пра якія мільярды гаворка ўжо не ідзе.

Зразумела, што сваім нафтаперапрацоўшчыкам Расія страты кампенсуе. А што выйграем мы? Ды нічога, акрамя стратаў. Дулю з маслам. Таму Аляксандр Рыгоравіч заслаў у Маскву звыклага «нафтагазавага перамоўшчыка» — Уладзіміра Сямашку, каб той дамовіўся наконт кампенсацыі стратаў ад «нафтавага манеўру», і просіць дэпутатаў «падумаць» над дакументам.





«Мы павінны ад гэтага (ЕАЭС) атрымаць больш, чым мы маем на сёння. Я не кажу пра нейкія грошы ад Расіі і гэтак далей. Мы павінны рабіць такія крокі, якія прыносяць карысць. У адваротным выпадку, навошта, калі гэта нічога не дае?» — дакладна паставіў задачу кіраўнік дзяржавы.

Пытанні да ЕАЭС і персанальна да Пуціна ёсць і ў Казахстана. Не так даўно расійскі лідар заявіў, што «Назарбаеў — унікальны чалавек, стварыў дзяржаву там, дзе яе ніколі не было». Адмаўленне дзяржаўнасці Казахстана выклікала моцнае абурэнне ў гэтай краіне, тым больш, што ўсе ведаюць — менавіта з гэтага пачалася вайна ў мацерыковай Украіне. У адказ Нурсултан Абішавіч заявіў, што ягоная краіна можа і выйсці з ЕАЭС, хаця пакуль выходзіць няма адкуль.

Незадаволены Казахстан і тым, што Расія актыўна прапіхвае ў новае міждзяржаўнае ўтварэнне Арменію. Нягледзячы на тое, што Арменія не была ў Мытным саюзе, і «правілы гульні» на гэтай прасторы не ведае. Казахская газета газета «Айкакан Жаманак», спасылаючыся на свае інсайдэрскія крыніцы ў МЗС Казахстана, напісала, што Арменія і Расія папярэджаныя па дыпламатычных каналах: магчыма, да 10 кастрычніка Казахстан «не паспее» прыйсці да канчатковага рашэння па пакеце аб уступленні Арменіі ў ЕАЭС.

Менавіта 10 кастрычніка ў Мінску павінна прайсці сустрэча кіраўнікоў Расіі, Беларусі і Казахстана. Як піша «Расійская газета», на ёй плануецца заявіць, што «тры краіны завяршылі ратыфікацыю і гатовыя да ўступлення Дамовы аб ЕАЭС у дзеянне з 1 студзеня 2015 года».

Але і ў Казахстана, і ў Беларусі — двухпалатныя парламенты. Ратыфікацыя Дамовы пра ЕАЭС ніжняй палатай яшчэ не азначае аўтаматычнае ўступленне дамовы ў дзеянне — яна павінна быць зацверджаная ў вышэйшай палаце.

Такім чынам, да азначанай даты можа «не паспець» не толькі Казахстан, але і Беларусь. Ужо вядома, што адразу Палата прадстаўнікоў Дамову аб ЕАЭС не ратыфікуе. Яшчэ час на зацвярджэнне гэтай ратыфікацыі спатрэбіцца і Савету рэспублікі. Але, улічваючы «лёсаноснасць» дакумента, як казаў герой фільма «Іван Васільевіч мяняе прафесію», — «такія пытанні адразу ж не вырашаюцца».

Што ж будзе рабіць Лукашэнка на сустрэчы з Пуціным і Назарбаевым 10 кастрычніка? А нічога. Развядзе рукамі і скажа: «Гэта не я, гэта парламент, а парламент у Беларусі незалежны». І не адкрые нічога новага. Тая ж пазіцыя ў яго была і застаецца па прызнанні незалежнасці прарасійскіх Абхазіі і Паўднёвай Асеціі. Лукашэнка ў свой час бажыўся іх прызнаць, але ж парламент супраць.

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

### 0,5 мільярда долараў

Гандлёвы абарот Беларусі з Малдовай цалкам рэальна ўзняць да 0,5 мільярда долараў, а ў перспектыве нават давесці гэту лічбу да мільярда. Такое пажаданне было сфармуляванае пасля паездкі беларускага гаранта ў Малдову. На думку шматлікіх каментатараў, візіт у Кішынёў можа значна паўплываць на мадэль беларускай гаспадаркі. Па сутнасці, у Кішынёве прапрацоўвалася схема эканамічнага супрацоўніцтва Беларусі з краінамі былога СССР, якія пачынаюць эканамічную інтэграцыю ў Еўропу (Малдова, Грузія, Украіна). Сутнасць формулы працы вельмі простая — лакалізаваць беларускую вытворчасць у краінах, якія маюць вольны выхад на еўрапейскі рынак і намагацца праз іх прасунуцца на Захад. Пры гэтым адначасова выступаць галоўным (часам нефармальным) каналам паставак прадукцыі той жа Малдовы на рынак Мытнага саюза.

Па сутнасці, другая частка гэтага плана ўжо рэалізуецца. Паводле інфармацыі міжнародных экспертаў, у жніўні пастаўкі малдаўскіх яблыкаў у Беларусь выраслі ў 24 разы (!) у параўнанні са жніўнем мінулага года. Пры гэтым усе ўпэўненыя, што ў далейшым вялікая частка гэтых фруктаў была рээкспартаваная ў Расію.

### 1,5 мільярда долараў



Каля паўтара мільярда долараў Беларусь просіць у Расіі ў якасці фінансавай кампенсацыі за так званы «падатковы манеўр» у нафтавай галіне. Гутарка ідзе пра законапраект, які прадугледжвае рэзкае зніжэнне экспартных пошлін на нафту і нафтапрадукты і адначасова з гэтым значна павышае падатак на здабычу карысных выкапняў, што прывядзе да росту коштаў на нафту. Адной з ахвяраў рэформы стане Мінск, які набывае нафту па ўнутранай цане Расіі. Патрабаванне Мінска выклікала ў Маскве лямант: «Колькі можна карміць Беларусь?» Канец гэтым маналогам паклала фраза Лукашэнкі ад 29 верасня: «Гэта (манеўр у нафтавай галіне) створыць праблемы ў функцыянаванні Еўразійскай саюза». Пасля гэтага тон каментароў у Маскве стаў значна больш далікатны. Хуткая капітуляцыя Масквы можа казаць пра тое, што прэзідэнцкая выбарчая кампанія 2015 года, у якой Пуцін будзе падтрымліваць існуючы беларускі рэжым, ужо пачалася.

### 50 рублёў

31 студзеня 2015 спыняецца выпуск банкнот Нацбанка Беларусі наміналам 50 рублёў узору 2000 года. Пра гэта 22-га верасня праінфармаваў Нацбанк. Афіцыйная прычына — немэтазгоднасць далейшага выкарыстання банкнот наміналам 50 рублёў у наяўным грашовым звароце і ў мэтах скарачэння дзяржаўных выдаткаў на іх выраб. «Скананне» чарговай банкноты (гэта ўжо 26-я купюра за часы незалежнасці, якую прыбралі са звароту) стала падставай для дэбатаў аб лёсах фінансавай сістэмы «сінявокай». Адна з самых цікавых думак, агучаных у інтэрнэце: спыненне друку 50-рублёвай купюры — гэта перадапошні званок перад дэнамінацыяй. Нацбанк яшчэ можа вывесці са звароту купюру ў сто рублёў. А вось з купюрамі наміналам у 500 і 1.000 рублёў так не атрымаецца, паколькі гэта ўжо будзе выглядаць як дэманстрацыя няздольнасці банкіраў змагацца з інфляцыяй.




Пасля ліквідацыі сторублёўкі дэнамінацыя проста непазбежная. Пытанне толькі ў тым, калі адменяць сторублёўкі? Некаторыя лічаць, што з такімі тэмпамі інфляцыі рубля (курс долара на мінулым тыдні ўпэўнена ўзяў бар'ер у 10600 «зайцаў»), выпуск сторублёвых купюр могуць прыпыніць напрыканцы 2015 года, пасля прэзідэнцкіх выбараў.

# Пазбавіць віду на жыхарства

Генадзь КЕСНЕР

**Улады распачалі працэдуру пазбаўлення віду на жыхарства ў дачыненні да вядомай праваабаронцы Алены Танкачовай, старшыні праўлення асветніцкай установы «Цэнтр прававой трансфармацыі» (Lawtrend).**

Алена Танкачова з'яўляецца грамадзянкай Расіі, хоць ужо трыццаць гадоў жыве ў Беларусі. Прадстаўнікі іншых праваабарончых арганізацыяў выказваюць салідарнасць з калегай.

Танкачова паведаміла БелаПАН, што 23 верасня яна атрымала ўведамленне пра пачатак працэдуры анулявання віду на жыхарства. «Я прадпрымаю ўсе неабходныя юрыдычныя захады, якія могуць паўплываць на сітуацыю», — сказала праваабаронца. Ад далейшых каментараў яна адмовілася.

Па словах кіраўніка юрыдычнай камісіі Беларускага Хельсінскага камітэта Гары Паганяйла, падставай для пазбаўлення чалавека віду на жыхарства могуць быць парушэнні ім заканадаўства Беларусі. «У інтэрнэце ёсць звесткі (наколькі яны сапраўдныя, іншае пытанне), што Танкачова двойчы парушала правілы кіравання аўтамабілем. Яна сапраўды мае машыну, але трэба высвятляць, наколькі грубымі былі тыя парушэнні (калі яны сапраўды мелі месца), каб пацягнуць за сабою працэдуру пазбаўлення віду на жыхарства», — адзначае юрыст.

У той жа час, кажа ён, гэтая працэдура можа быць наўпрост звязаная з грамадскай і праваабарончай дзейнасцю Танкачовай. «Натуральна, калі мы маем на ўвазе канкрэтнага чалавека, мы мусім ацаніць не толькі фармальныя бакі гэтай справы, але і канкрэтныя абставіны асабістага характару. Алена — вядомы чалавек у галіне абароны правоў чалавека, ачольвае праваабарончую арганізацыю, зарэгістраваную ў якасці рэгіянальнай ва ўпраўленні юстыцыі Мінгарвыканкама, яна публічна крытыкуе ўладу за парушэнне правоў людзей. Наша ўлада яўна недэмакратычная, яна кепска ставіцца да праваабаронцаў, таму нельга выключаць, што гэтая працэдура звязана з дзейнасцю Алены», — лічыць Паганяйла.

Праваабаронца Уладзімір Лабковіч, як і ягоныя калегі, таксама разглядае гэты факт як расправу над Танкачовай за яе праваабарончую дзейнасць. «Гэта адзіная прычына, бо яна не парушала заканадаўства Рэспублікі Беларусь, яна і яе сям'я ўжо даўно стала жыве ў Беларусі і мае повязі з Беларуссю, яна абсалютна інтэгравана ў беларускае грамадства. Калі гэтая працэдура прывядзе да таго, што Танкачова будзе вымушана пакінуць Беларусь, то гэта будзе толькі з-за яе праваабарончай дзейнасці», — упэўнены Лабковіч.

Цэнтр прававой трансфармацыі з'яўляецца некамерцыйнай структурай, мэтаю якой ёсць павышэнне прававой культуры, арганізацыя асветніцкай, аналітычнай і даследніцкай дзейнасці ў галіне права.

# Вярхоўны суд: нерэгістрацыя «Пакту»

Марат ГАРАВЫ

**Вярхоўны суд пацвердзіў законнасць і абгрунтаванасць пазіцыі Міністэрства юстыцыі, што адмовіла ў рэгістрацыі рэспубліканскага праваабарончага грамадскага аб'яднання «Рух за рэалізацыю Міжнароднага пакту па грамадзянскіх і палітычных правах» («Пакт»).**

Такое рашэнне 30 верасня прыняў суддзя Вярхоўнага суда Мікалай Бабкоў па выніках двухдзённага разгляду скаргі праваабаронцаў Уладзіміра Букштынава, Леаніда Судаленкі і Міхаіла Пастухова.

Яны прасілі суд прызнаць неправамернай адмову ў рэгістрацыі грамадскага аб'яднання, паколькі гэтая адмова парушае канстытуцыйныя правы на свабоду аб'яднання 52-х грамадзян Беларусі — заснавальнікаў «Пакту». Аднак суд не задаволіў скаргу заяўнікаў.

У інтэрв'ю НЧ доктар юрыдычных навук, прафесар Міхаіл Пастухоў заявіў: судовы працэс засведчыў, што дзяржава стварае фармальныя перашкоды на шляху рэгістрацыі новых грамадскіх аб'яднанняў, дзеля чаго ў ход ідуць любыя аргументы, кшталту нязначных тэхнічных памылак падчас падрыхтоўкі дакументаў. А калі ўлічыць патрабаванне падзаконных актаў і ведамасных інструкцый, дык усё гэта сведчыць пра адно: дзяржава не стварае належных умоваў для рэалізацыі канстытуцыйных правоў і свабод грамадзян Беларусі.

Былы адвакат Уладзімір Букштынаў кажа, што стварэнне ў краіне праваабарончай арганізацыі, якая імкнецца імплеметаваць рашэнні КПЧ, звязана з правамі і свабодамі чалавека, у тым ліку са свабодай слова і друку, сходаў, шэсцяў, дэманстрацый і пікетаў, а таксама з правам на свабодныя выбары. Гэтыя правы і свабоды дазваляюць людзям рэалізаваць сваю актыўнасць, у тым ліку і палітычную, у чым дзяржава аніяк не зацікаўлена. Таму, на яго меркаванне, дзяржава і адмаўляе ў рэгістрацыі РПГА «Пакт».

Варта зазначыць, што Вярхоўны суд адмовіўся задаволіць хадайніцтва заяўнікаў на праверку адпаведнасці Канстытуцыі тых нарматыўна-прававых актаў, якія тычацца рэгістрацыі грамадскіх аб'яднанняў.

# Інтэлігенцыя падтрымала Кангрэс

Марат ГАРАВЫ

**Грамадзянская ініцыятыва «Рада беларускай інтэлігенцыі» на сваім пасяджэнні, што адбылося вечарам 30 верасня ў Мінску, падтрымала ідэю правядзення Усебеларускага кангрэсу за незалежнасць.**

Акадэмік Аляксандр Вайтовіч лічыць Усебеларускі кангрэс за незалежнасць справай вельмі наспелай і карыснай, калі ўлічыць сітуацыю ў краіне і вакол яе ў сувязі з вайной Расіі супраць Украіны. Сярод пытанняў, што трэба абмеркаваць на кангрэсе, спадар Вайтовіч назваў сітуацыю вакол Украіны і праблему перадачы зямлі іншаземцам.

Эканаміст Леанід Злотнікаў звярнуў увагу на неабходнасць паставіць на кангрэсе пытанне пра падзел улады і ўласнасці, а таксама пра пазаблокавы статус незалежнай Рэспублікі Беларусь.

Паэт Сяргей Законнікаў лічыць, што апроч праблемы незалежнасці краіны кангрэс павінен разгледзець пытанні дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі.

Кінадраматург Уладзімір Халіп адзначыў, што перад Беларуссю, Расіяй, Еўропай і светам кангрэс павінен засведчыць адно: у краіне ёсць людзі, якія не збіраюцца здаваць незалежнасць Беларусі, а будуць яе бараніць.

Падводзячы вынікі пасяджэння, старшыня РБІ, педагог і кінарэжысёр Уладзімір Колас зазначыў, што разам з абаронай незалежнасці Беларусі кангрэс можа паставіць шэраг іншых праблемаў, у тым ліку пра будаўніцтва АЭС без уліку меркаванняў грамадзянаў краіны, пра продаж зямлі іншаземцам, а таксама пра ўціск дзяржавай нацыянальнай культуры, гістарычнай памяці і свядомасці беларусаў. «А калі хада гісторыі прымушае ўлады думаць, як мы, у гэтым няма нічога кепскага. Толькі трэба не дапускаць таго, каб ідэю кангрэсу выкарысталі не дзеля абароны незалежнасці, а дзеля іншых мэтаў», — падкрэсліў Колас.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Навучылі на сваю галаву

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Беларусь з'яўляецца краінай-вынаходніцай самых розных хітрыкаў і «супрацьхітрыкаў». Мы ці то інтэграцыю замуцім, ці то разбаўляльна-растваральны бізнэс. Але раней чамусьці ніхто не пераймаў наш досвед у гэтай галіне. Зараз нарэшце карысць ад нашай «хітразробленасці» атрымала Расія.**



Ні для каго не сакрэт, што ў нас за кантрабанду блока цыгарэт можна пазбавіцца аўтамабіля, на якім гэтыя цыгаркі перамяшчаліся праз мяжу. Расіяне гэты карысны досвед заўважылі. Адно шкада — абернецца ён супраць нас жа.

Расельгаснагляд ва ўмовах уведзенага Расіяй харчовага эмбарга прапануе зрабіць істотна больш жорсткім кантроль за перавозчыкамі сельгаспрадукцыі і прадуктаў харчавання. Гаворка ідзе аб магчымым увядзенні забароны на іх уезд ці нават канфіскацыі транспартных сродкаў у выпадку спробаў кантрабанды, паведаміў кіраўнік Рассельгаснагляду Сяргей Данкверт.

Паводле яго слоў, існуючая ў цяперашні час практыка не дазваляе цалкам кантраляваць перамяшчэнне прадукцыі, асабліва той, што падлягае фітасанітарнаму кантролю. «Існуе парадак: калі прадукцыя адпраўляецца з Беларусі праз Расію ў Казахстан, то беларускі бок павінен праінфармаваць казахстанскі, што груз пайшоў, — паведаміў ён. — Але зваротнай сувязі, то бок паведамлення пра тое, што ён атрыманы, не прадугледжана».

«Як паказвае практыка, гэта з'яўляецца абыходам тых забаронаў, якія ўвяла Расія ў дачыненні да шэрагу краін, — сказаў ён. — Ідзе масавая пастаўка растаможанай у Беларусі прадукцыі, якая адрасавана Казахстану, але да яго не даязджае. Шчыліна выкарыстоўваецца для таго, каб прадукцыя заставалася ў Расіі».

Вось яшчэ адно «вынаходніцтва Мытнага саюза». Сапраўды, чаму мы павінны даваць справаздачу Расіі пра груз, які ідзе праз яе транзітам? Ну, а тое, што гэты груз знікае недзе ў Падмаскоўі, — хай з гэтым расійскія праваахоронныя органы разбіраюцца.

Як лічыць Данкверт, у гэтых умовах неабходна павысіць кантроль за перавозчыкамі аж да накладання сур'ёзных спагнанняў або канфіскацыі транспарту. «Інакш гэта не спыніш, — сказаў ён. — Апошні выпадак кантрабанды свініны з Казахстана паказаў, што машына, якая па дакументах везла груз у Літву, а разгрузілася ў Падмаскоўі, была з літоўскай рэгістрацыяй, прычэп — з калінінградскай, а кіроўца — беларус».

А што вы хацелі, спадар Данкверт? Забылі, у які час жывяце? Гэта і называецца — «глабалізацыя»!

На перамовы па гэтым пытанні ў Маскву з'ездзіў міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі Леанід Заяц. Але мы не разлічваем на тое, што «харчовы Клондайк» з расійскім эмбарга будзе цягнуцца да бясконцасці.

На тыдні Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў ад урада «акуратнага падыходу» да стварэння дадатковых магутнасцяў па перапрацоўцы сельгаспрадукцыі. Бо, па ягоным меркаванні, у выпадку адмены Расіяй забароны на імпарт прадуктаў харчавання з шэрагу краін яны могуць стаць незапатрабаванымі. Значыць, беларускі кіраўнік ведае нешта наконт магчымай адмены «харчовага эмбарга» ў Расіі.

Што тычыцца аўтамабіляў, то, як і абяцаў «Белнафтахім», паліва, прывязанае да долара, падаражэла. Але падаражэла яно неяк дзіўна. З 1 кастрычніка кошт бензіну Аі-92-К5-Еўра ўстаноўлены ў памеры, эквівалентным 1 долару ЗША за 1 літр. Але ў «Белнафтахіма», аказваецца, свой курс долара. Тады, як афіцыйна «зялёны» каштуе 10.590 рублёў, гэтая кантора ўстанавіла кошт літра эталоннага бензіну ў 10.600 рублёў. Дробязь, 10 рублёў, але непрыемна. Хто ж дасць гарантыю, што потым «белнафтахімаўскі долар» не адарвецца ад афіцыйнага курсу на сто, дзвесце, тысячу рублёў? Калі ў іх ужо зараз такія апетыты?

Так што трэба перасаджвацца на ровары. Тым больш, што для гэтага зараз ствараецца ўсё больш і больш умоваў. У Мінску ДАІ на рэгуляваных скрыжаваннях будзе выкарыстоўваць новую разметку зялёнага колеру для інфармавання кіроўцаў аб перасячэнні з веласіпедным пераездам.

«Разметка будзе прыцягваць увагу кіроўцаў, інфармаваць веласіпедыстаў і пешаходаў аб паасобных зонах перасячэння праезнай часткі. Такое нованаўвядзенне актыўна выкарыстоўваецца ў многіх краінах свету, аднак колер разметкі у кожнай краіны свой», — гаворыцца ў паведамленні прэс-службы ДАІ. Пілотны праект будзе рэалізаваны на праспекце Пераможцаў. Зялёная разметка таксама будзе наносіцца пры будаўніцтве новых светлафораў.

Цікава, што зялёная разметка ўводзіцца зараз, а не вясной. У сувязі з гэтым не менш цікава, колькі грошай на гэты «пілотны праект» выдзяляецца з бюджэту? Таму што ўсім вядома — зараз восень, настаюць дажджы і халады. Потым пойдзе снег, і пра ровары трэба будзе забыцца. А ўвесну, разам са снегам, з дарог сыдзе не толькі «пілотная», але і звычайная разметка. І будзем мы, не дачакаўшыся вынікаў эксперыменту, па другім разе фарбаваць асфальт у зялёны колер.

А «лішніх» грошай на гэта ў нас няма. Міністэрства фінансаў краіны агучыла невясёлую статыстыку — дзяржаўны доўг Беларусі расце. На 1 верасня 2014 года ён склаў 178,8 трыльёна рублёў і павялічыўся з пачатка года на 24,8 трыльёна рублёў, або на 16,1%.

Такім чынам, нам трэба зараз берагчы кожную капейчыну. Гэта разумее кіраўніцтва дзяржавы. У прыватнасці, на гэтым жа тыдні Аляксандр Рыгоравіч папярэдзіў: неабгрунтаванага росту заробкаў не будзе.

«Я, як і вы, вельмі зацікаўлены ў тым, каб падтрымліваць насельніцтва. Але я публічна і часам у жорсткай форме звяртаю ўвагу на тое, што дзяржава не ствараецца для таго, каб карміць каго-небудзь, хто не вельмі хоча на сябе працаваць», — заявіў Лукашэнка на сустрэчы з дэпутатамі.

«Трэба мець на ўвазе, што мы зараз перажываем не лепшыя часы ў сувязі з зацяжным эканамічным крызісам. Гэта нават не крызіс — асобныя дзяржавы нахіляюць увесь свет, каб вырашыць некаторыя праблемы. Вядома, нам цяжка супраціўляцца. Нам трэба прыстасавацца і выжыць у гэтай сітуацыі. Таму весці сёння размовы аб масіраваным павелічэнні заработнай платы не прыходзіцца. Гэты перыяд трэба спакойна перажыць», — рэзюмаваў Лукашэнка.

Падобна, што сацыяльнай скіраванасці асобна ўзятай дзяржавы ў цэнтры Еўропы прыходзіць павольны, але ўпэўнены канец.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Уладзімір Макей

**Міністр замежных спраў Беларусі паехаў у ААН распавядаць пра правы дзіцяці. Але дзеткі, бачна, падраслі. 30 верасня з трыбуны Генеральнай Асамблеі ААН кіраўнік МЗС краіны Уладзімір Макей заявіў, што афіцыйны Мінск выступае супраць навязвання краінам чужых палітычных і эканамічных мадэляў, а таксама культурных пераваг.**



Ён адзначыў, што «моцныя гэтага свету» працягваюць «лічыць, што менавіта іх бачанне і мадэль развіцця з'яўляюцца ўніверсальнымі». «Яны і не пытаюцца ў астатніх, ці падабаецца ім, напрыклад, так званая ліберальная дэмакратыя, — працягнуў міністр. — Астатніх проста ставяць перад выбарам: альбо прымайце «рэцэпты», або рыхтуйцеся да наступстваў — пагрозаў, санкцый, «каляровых рэвалюцый».

Ён таксама звярнуў увагу на новыя небяспечныя тэндэнцыі. «У прыватнасці, нас прымушаюць адмовіцца ад каштоўнасцяў традыцыйнай сям'і і замест іх прызнаць разнастайнасць формаў гэтага інстытута. Іншымі словамі, нас спрабуюць пазбавіць нашай душы. Гэта іншы спосаб падпарадкаваць капіталу няўгодных, зрабіўшы іх бяздушнымі рабамі», — папярэдзіў кіраўнік МЗС Беларусі.

Сапраўды, праблема «нетрадыцыйных» сем'яў — тое, што павінна найбольш хваляваць міністра замежных спраў!

## Анатоль Міхайлаў

**Калісьці хадзіла такая показка: «Лукашэнку надакучыла быць прэзідэнтам. Каранацыя прызначаная на чацвер». Але першым спраўдзіў гэтую показку стваральнік ЕГУ акадэмік Анатоль Міхайлаў. Ён больш не рэктар Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта. Ён зараз ягоны прэзідэнт.**



Пасля больш чым дваццаці гадоў працы рэктар-заснавальнік ЕГУ акадэмік Анатоль Міхайлаў прыняў прапанову заняць новастворапую пасаду прэзідэнта ўніверсітэта, паведамляе прэс-служба ўніверсітэта.

«Анатоль Міхайлаў — выбітны дзеяч у галіне адукацыі, чыя роля як кіраўніка была ключавой і ў справе стварэння ЕГУ ў Мінску, і потым для яго аднаўлення ў выгнанні пасля гвалтоўнага закрыцця беларускімі ўладамі. Я рады, што цяпер ён працягне сваё цеснае супрацоўніцтва з універсітэтам як старшы саветнік і выкладчык», — заявіў прафесар Дэніэл Таршыс, старшыня кіруючай Рады ЕГУ.

Паводле інфармацыі прэс-службы, неўзабаве ў ЕГУ будзе аб'яўлены конкурс на пасаду рэктара. Часова выконваць абавязкі рэктара будзе прафесар Дэвід Полік.



## Аляксандр Ермаковіч

**Трэнер БАТЭ Аляксандр Ермаковіч выдатна падрыхтаваў сваю каманду і вывеў яе з «псіхалагічнага піке».**

30 верасня БАТЭ правёў чарговы матч групавога этапу футбольнай Лігі чэмпіёнаў. На «Барысаў-Арэне» яны прымалі «Атлетык» з Більбао (Іспанія), які ў першым туры згуляў унічыю 0:0 з данецкім «Шахцёрам». БАТЭ, як вядома, пацярпеў у гасцях разгромнае паражэнне ад «Порту» — 0:6.

Напярэдадні матчу галоўны трэнер БАТЭ Аляксандр Ермаковіч неаднаразова падкрэсліў, што ў каманды ёсць жаданне рэабілітавацца перад сваімі заўзятарамі. «Хочацца рэабілітавацца пасля няўдалай гульні ў Партугаліі. Перш за ўсё нам хочацца самім даказаць, што мы можам гуляць і супрацьстаяць добрым камандам, добрым футбалістам у Еўропе. Таму мы поўныя рашучасці рэабілітавацца і будзем старацца зрабіць усё, што ад нас залежыць». Па словах Ермаковіча, ён верыць у футбалістаў і спадзяецца, што яны псіхалагічна справяцца з няпростай сітуацыяй.

І яны справіліся. БАТЭ перамог «Атлетык» з лікам 2:1. Варта заўважыць, што БАТЭ выйшаў на гульню без лідараў. Траўмаваны капітан Дзмітрый Ліхтаровіч, а месца цэнтру паўабароны нечакана заняў малады Яўген Яблонскі. Намеснікам Радзівонава ў нападзенні з'явіўся Мікалай Сігневіч. А ролю атакуючага паўабаронцы заняў Аляксандр Карніцкі. І гэта не перашкодзіла камандзе разграміць «Атлетык»!

3 кастрычніка 2014 | № 37 (406) Новы Час

# Нават не думайце здаць Марыупаль

Зміцер ГАЛКО

**Майдан выклікаў у марыупальцаў раздражненне і злосць, яго перамогу ўспрынялі як уласную паразу. Анексію Крыма сустрэлі з радасцю, з'яўленне ДНР — з энтузіязмам… Амаль тры месяцы існавання ў ДНР гэты энтузіязм моцна астудзілі.**




Усе грамадскія актывісты, з якімі я сустрэўся ў Марыупалі, былі даволі стрыманыя ў ацэнцы настрояў насельніцтва горада ў цэлым. Жанчына, якая прыходзіць на трэніроўкі ў мясцовы атрад самаабароны, наогул сказала: «У сваім пад'ездзе і на працы я адна такая (патрыётка)». Гэта не перашкаджае альтэрнатыўна настроеным гараджанам абурацца, што «некалькі сотняў чалавек у вышыванках гавораць за ўвесь горад, нібыта тут усе такія».

Безумоўна, далёка не ўсе тут такія. Але навакольны свет цікавяць тыя, хто займае актыўную пазіцыю, на іх звяртаецца ўся ўвага. Вясной гэта былі прыхільнікі ДНР, цяпер — украінскія патрыёты. Менавіта яны фармуюць парадак дня ў горадзе і ствараюць ягоны твар. Я магу параўнаць: вясной рысы гэтага твару былі значна меней прыемнымі.

## Марыупаль — не Данбас

Мы пагутарылі з Яраславам Мацюшыным, грамадскім актывістам, які жыве ў левабярэжнай частцы Марыупаля, усяго за некалькі прыпынкаў ад усходніх блокпастоў — месца рэгулярных абстрэлаў. «Затое на будзільніках можна зэканоміць. Шторанку а палове на сёмую «Грады». Лепата!» — з гумарам кажа ён пра абстрэлы.

— Калі я быў у вас вясной, візуальная прысутнасць ДНР здавалася не надта сур'ёзнай…

— Да Левага берагу яны не дабраліся, займалі ў горадзе ўсяго адзін квартал у цэнтры, на скрыжаванні вуліцы Грэчаскай і праспекта Леніна. Тут тусавалася колькі дзясяткаў расійскіх наёмнікаў і яшчэ столькі ж мясцовых гопнікаў. Іхны «ваенны камендант», Андрэй Барысаў, пастаянна скардзіўся на тое, што ніхто не хоча ісці ваяваць.

— Свой след яны, аднак, паспелі пакінуць…

— Так, гэтыя гопнікі, якім далі «пісцікі» і развязалі рукі, разбамбілі ў цэнтры ўсе ювеліркі, усе крамы, якія гандлявалі смартфонамі і гаджэтамі. Абкладалі «рэвалюцыйным падаткам» бізнэс. Хтосьці яго плаціў, але, напрыклад, браты Сапаравы, уладальнікі службы рытуальных паслугаў, у адказ на пагрозы прывезлі ім на пачатку чэрвеня пад штаб труну, расфарбаваную ў колеры сцяга ДНР.

Недзе праз тыдзень пасля гэтага «падарунку» ДНР у нас была насамрэч пахаваная — Марыупаль вызваліла ўкраінская армія.

Зрэшты, тэхнічная магчымасць зачысціць горад сіламі мясцовага гарнізона міліцыі была і раней. Толькі міліцыянты ўсе чакалі расійскіх заробкаў па дзве тысячы долараў, таму сталі калабарантамі, інакш не магу іх назваць. Цяпер яны як шоўкавыя, бо ў горадзе стаіць армія, але іх трэба мяняць на іншыя кадры, веры ім ніякай няма, гэта такая міна запаволенага дзеяння.

— Значыць, ДНР трымалася на змычцы гопнікаў і міліцыянтаў. А што астатняе насельніцтва, падтрымлівала Украіну?

— Насельніцтва жыло згодна з вядомым стэрэатыпам, што паўднёвы ўсход не можа падзяляць нацыянальныя ідэалы. Майдан выклікаў у марыупальцаў раздражненне і злосць, яго перамогу яны ўспрынялі як уласную паразу. Анексію Крыма сустрэлі з пячорнай радасцю, з'яўленне ДНР — з віскатлівым энтузіязмам… Амаль тры месяцы існавання ў ДНР гэты энтузіязм моцна астудзілі. Яны ж не стварылі ў горадзе нічога, апроч праблемаў.

— Сапраўды, не чуў, каб гэтыя месяцы ў Марыупалі згадвалі з настальгіяй. Але нехта кажа, што пры ДНР было кепска, бо гэта была «няправільная» ДНР…

— Заўжды можна з'ездзіць у Данецк — тут недалёка, паглядзець на эталон. Тыя, хто там бывае, вяртаюцца і кажуць: ды ну яго на фіг. Уцякаюць жа адтуль да нас, а не наадварот.

— Цяпер марыупальцы сталі ўкраінскімі патрыётамі?

— Трэба сказаць, што Марыупаль — не Данбас. Ні геаграфічна, бо Данецкі вугальны басейн заканчваецца далёка ад нашага горада. Ні ментальна, бо мы людзі паўднёвыя, больш разняволеныя, нязлосныя. Азлобленых на ўсё людзей, а менавіта такія сталі «дровамі» пажару на Данбасе, у нас заўжды было значна меней, чым у Данецку.

І патрыёты ў Марыупалі заўжды былі. Толькі для мяне стала абсалютнай нечаканасцю, што столькі людзей, гатовыя нешта рабіць дзеля Украіны.

## Батальён «кікімараў»

Большасць гатовых нешта рабіць людзей канцэнтруюцца вакол «Новага Марыупаля» — аб'яднання валанцёрскіх арганізацый, якое паўстала ў сувязі з вайной. «Новаму Марыупалю» даводзіцца закрываць сабой дзіркі ў інфраструктуры дзяржавы. Яны забяспечваюць вайскоўцаў рацыямі, берцамі, каскамі, бронекамізэлькамі, біноклямі і г.д. Займаюцца таксама тэрміновай дапамогай параненым.

«Менавіта нам тэлефануюць ваенныя, калі вязуць параненага. Мы выязджаем, бярэм з сабой вопратку, сродкі гігіены і неабходныя медыкаменты. Я ўжо збілася з ліку, колькі ў нас было такіх выездаў, дакладна некалькі сотняў», — кажа Марыя Падыбайла, у мірным жыцці старшы выкладчык кафедры міжнародных адносінаў Марыупальскага дзяржаўнага ўніверсітэта, а цяпер каардынатар валанцёрскага аб'яднання. За ўсё лета мора яна бачыла толькі аднойчы, калі яны прывозілі рэчы на базу аднаго з добраахвотніцкіх батальёнаў, не мела ніводнага выхаднога дня.

Марыя вядзе мяне па калідорах памяшкання, якое аддала ім газета «Вячэрні Марыупаль», каб паказаць «наш гонар». «Батальён кікімараў», як мы іх жартам называем», — тлумачыць яна.

У памяшканні сядзяць мілавідныя пажылыя жанчыны і плятуць з падручных матэрыялаў (венікаў, нітак мешкавіны, чароту) тыя самыя «кікімары» — маскіровачныя плашчы, расфарбоўваючы пад мясцовы ландшафт. Калі іх набываць у спецыялізаваных крамах, яны каштуюць паўтары-дзве тысячы грыўняў за штуку, самаробныя атрымліваюцца значна танней, калі ж улічыць, што ў іх укладзена часцінка душы — наогул бясцэнныя.

Жанчыны з «батальёну кікімараў» кажуць, што тут нарэшце адчулі сябе дома, на сваёй зямлі. Раней кожнай з ёй паасобку было самотна, яны не ведалі, ці ёсць побач яшчэ нехта, хто падзяляў бы іхныя погляды. «Рэдка-рэдка калі сустрэнеш такога чалавека, дык абды-ы-ымешся. Але часцей было не зразумець, дзе ты, што гэта за горад, чый ён, і як знайсці сваіх. Зараз мы бачым, што нас зусім не так мала, як нам падавалася», — наперабой расказваюць яны.

Яшчэ адзін матыў — пазбаўленне ад марнага адчування, што «ўсё прапала». «Навошта сядзець і біцца ў істэрыцы?.. Вяртаюся я днямі адсюль дадому, іду па вуліцы, мне тэлефануюць, крычаць: што там здарылася, чаму сірэны гудуць?! Не ведаю, кажу, у мяне ціха. Не, я чую сірэны, але мне так спакойна, што няма да іх ніякай справы», — тлумачыць адна з «кікімараў», чаму яна сюды прыходзіць. Іншыя падхопліваюць, згаджаюцца — пачні дзейнічаць, рабіць што-небудзь, каб выправіць сітуацыю.

«Я ведаю: калі салдат апрануты, абуты, мае неабходны рыштунак, накормлены — ён будзе здольны ваяваць, абараніць мяне. Бо зразумее, што ён неабходны народу», — кажа жанчына. «Мы ж разумеем, што калі Марыупаль падзе, астатняя Украіна не выстаіць», — гаворыць іншая.

«Вось так, бачыце, на нашых дзяўчынах трымаецца ўся Украіна. І калі ў каго-небудзь ёсць дурная думка, мы гэта ўсім гаворым, у тым ліку спадару прэзідэнту, здаць Марыупаль, вы яе кіньце!» — падводзіць рысу Марыя.

## Забудзьцеся пра вату

Ілан займаецца падрыхтоўкай мясцовай самаабароны — будучых байцоў батальёну «Марыупаль».

Падрыхтоўка будучых байцоў нежартоўная. Прыязджаюць займацца з імі ў якасці інструктараў байцы з фронту. У іх не твары — партрэты. Бадай кожнага можна браць на вокладку тэматычнага нумару часопіса з подпісам «Чалавек вайны». Скура на тварах нацягнутая так, што яны, здаецца, фізічна не могуць усміхнуцца. Расказваючы пра апрацоўку раны на полі бою, інструктар выпадкова сказаў вельмі смешную рэч: «Ніякай ваты, забудзьцеся пра вату!» Усе кадэты дружна засмяяліся, а ён са сваімі пабрацімамі нават не ўсміхнуўся. Толькі яшчэ раз старанна патлумачыў, чаму вата ў такіх выпадках не падыходзіць. Ён увогуле настолькі старанна ўсё тлумачыў, што нават я, старонні назіральнік, амаль усё запомніў. Бо чалавек дзяліўся практычнымі ведамі з жаданнем дапамагчы слухачу ў будучым выратаваць уласнае жыццё.

Ці ведаеце вы, як падаць, калі ў памяшканне, дзе вы знаходзіцеся, кідаюць гранату? Ні ў якім разе не жыватом уніз. Трэба ўпасці на спіну, прыціскаючы да жывата аўтамат. Выбухне граната ці не — гэта яшчэ не вядома, але калі вы будзеце ляжаць на жываце, вас прыстрэляць, як таго труса. Калі ж падаеш у полі падчас абстрэлу, трэба зводзіць разам пяткі, а рукамі, сагнутымі ў локцях, прыкрываць бакі. Такім чынам будуць абароненыя галоўныя артэрыі і «будучыя дзеці».

Што найперш трэба зрабіць з чалавекам, які атрымаў моцнае раненне ў галаву? Яму трэба завязаць вочы. Каб ён не бачыў твараў, якія будуць на яго глядзець з выразам: «О, братан, табе капец».

«Калі вас або вашага пабраціма паранілі ў жывот, вы бачыце, што выпалі вантробы, не спрабуйце ўпіхнуць іх назад — усё роўна правільна не ўвапхнеце. Абматайце поліэтыленам, але так, каб чалавек мог устаць і ўздыхнуць, а не стаяў як робат», — расказвае інструктар. Ён згадаў і пра тое, што трэба параненаму ў вочы трэба прыкласці да вачэй скруткі скотчу ці што-небудзь такога кшталту, і толькі потым перабінтаваць паверх. І г.д. і да т.п.

У кожным выпадку ён згадваў каго-небудзь са сваіх пабрацімаў, тых, хто здолеў выжыць, ці тых, хто загінуў. Я быў зачараваны ягоным манатонным, нібыта безэмацыйным расповедам.

«Непрыгожая вайна, бязглуздая, ганебная… Не чакайце, што вам давядзецца хадзіць у атаку з крыкам: «За Радзіму!»… Тут толькі лупяць з цяжкай артылерыі абы куды, бо нават разведкі нармальнай няма — ні ў нас, ні ў іх… Можа, я б вярнуўся дадому, але мне няма куды вяртацца, няма ў мяне дому, там цяпер ДНР. Непрыгожая вайна, бязглуздая, ганебная… (ён паўтараў гэты рэфрэн раз-пораз) Так, я ведаю пра ўсе падласці, што на ёй робіцца, у тым ліку з нашага боку. Ведаю, і ўсё-ткі застаюся тут. Бо галоўнае, каб я сам не рабіў падласці. Рабіў толькі тое, што павінен рабіць. І вы рабіце тое, што павінны рабіць. Абараняйце з годнасцю свой дом», — прамовіў салдат.

***P.S.** У ноч на 26 верасня памяшканне «Новага Марыупаля» падпалілі. Ніхто не пацярпеў, але згарэла вялікая партыя гуманітарнай дапамогі арміі, якая прыбыла напярэдадні: цёплыя рэчы, палаткі, тэрмабялізна ды іншае. Амаль некранутымі засталіся толькі лісты дзяцей вайскоўцаў, адрасаваныя бацькам.*

Сяргей ШАПРАН

# Алег Басілашвілі: «Быкаў — вялікі пісьменнік»

**Выдатнаму расійскаму акцёру Алегу Басілашвілі — 80. Вялікі талент, бліскучыя, запамінальныя ролі ў тэатры і кіно і, нарэшце, годнае жыццё... Мы гутарылі з Алегам Валяр'янавічам у чэрвені 2003-га, адразу пасля спектакля. Была ўжо гадзіна ночы, калі нечакана Алег Валяр'янавіч прыгадаў Быкава. Васіль Уладзіміравіч знаходзіўся ў той час у Бараўлянах.**





Гэта фота Васіля Быкава Сяргей Шапран зрабіў 29 мая 2003 года

Напярэдадні я званіў і прасіў сказаць словы падтрымкі Быкаву найвядомейшых расійскіх пісьменнікаў Грыгорыя Бакланава, Уладзіміра Вайновіча, Барыса Васільева, Данііла Граніна, Фазіля Іскандэра (калі сказаў пра тое Басілашвілі, ён заўважыў: «Гэта ўсё славутыя імёны і годныя людзі»). І вось цяпер пра тое ж папрасіў Алега Валяр'янавіча, і ён ахвотна пагадзіўся. Праўда, перадаць яго словы Быкаву я не паспеў — гаварылі мы ў ноч на 22 чэрвеня, праз некалькі гадзін Васіля Уладзіміравіча не стала.

— Быкаў — вялікі пісьменнік, вялікі. Калі ўпершыню прачытаў «Мёртвым не баліць», я быў уражаны да глыбіні душы...

***— Алег Валяр'янавіч, ці помніце, калі гэта было? Аповесць упершыню ў перакладзе на рускую мову з'явілася ў «Новом мире» ў 1966 годзе...***



**Сяргей ШАПРАН**

— Гэты часопіс дасюль у мяне ёсць. Я быў уражаны мераю праўды, новай ступенню праўды. Быкаў прымусіў мяне адчуць пах снегу, ночы марознай... Ці «Круглянскі мост», напрыклад. Я і дасюль памятаю ўсю гэтую праўду пра вайну, праўду пра чалавечыя ўзаемаадносіны. Быкаў навучыў нас адрозніваць, дзе дабро, а дзе зло. Ён адвёў нас ад прыдуманых фетышаў чалавечай праўды. Ён быў першым пісьменнікам. Так, вядома, раней за Быкава быў Салжаніцын з яго «Одним днём Ивана Денисовича», аднак павінен вам сказаць, што, параўноўваючы літаратурныя вяршыні Салжаніцына і Быкава, я стаўлю Быкава значна вышэй як літаратара, хоць Салжаніцын зрабіў вельмі шмат у літаратуры. Але па сваім літаратурным дары Быкаў, канешне, вялікі пісьменнік. Гэтаксама вялікім пісьменнікам быў і Юрый Трыфанаў — гэта ўжо пасля была цэлая плеяда паслядоўнікаў: Юрый Казакоў, Віктар Канецкі ды іншыя, аднак першым быў усё-такі Трыфанаў. Таксама і Быкаў быў першы — ён як вяршыня піраміды.

Вось ніяк не магу забыцца пра яшчэ адну яго аповесць — «Сотнікаў». Праўда, мне не падабаецца фільм, які быў зняты паводле гэтага твора, — там Сотнікаў як Ісус Хрыстос распяты. У Быкава ж гэтага няма — у Быкава звычайны чалавек, у нечым не вельмі нават і прыемны. І наколькі абаяльны другі герой «Сотнікава», просты і ўмелы! Аднак як гэты інтэлігент Сотнікаў знаходзіць у сабе сілу і мужнасць духу супрацьстаяць немцам і здраднікам! Гэта настолькі проста і пазнавальна! Калі кожнага разу чытаю Быкава, застаецца ўражанне, што я сам жыў на гэтым беларускім хутары ці пасярод тых балот...

Ці іншая аповесць (не памятаю назвы), калі бацьку раскулачылі, а яго сын працуе ў міліцыі, і яны ловяць бацьку, які хаваецца ў лесе. (Размова пра аповесць «Аблава». — С. Ш.) І вось гэты восеньскі, марозны лес, ужо без лісця, і вогнішча нельга раскласці, таму што дым могуць убачыць. І ён мерзне ў тым лесе, пакуль нарэшце не чуе сабак і разумее, што кола вакол яго звужаецца. І ён ідзе ў балота і трымаецца за галінку, каб не патануць, аднак чуе, як сын кажа: «А вы там пашуруйце!» І тады адпускае галінку і тоне... Справа нават не ў сюжэце, а ў тым, як напісаны гэты позні восеньскі беларускі лес, які ажно хрусціць ад прамёрзлай лістоты... Гэта выдатная літаратура, выдатная.

Наогул кажучы, у кожнага пісьменніка свая праўда, і асабліва гэта датычыць Быкава. Прычым калі гавару пра праўду Быкава, дык маю на ўвазе праўду не толькі ідэалагічную, але і мастацкую. Менавіта Быкаў раскрыў гэтую праўду неяк зусім па-іншаму. Я ж сам ваенны хлопчык і помню вайну, і чытаў і «Дни и ночи» Сіманава, і «В окопах Сталинграда» Някрасава — гэта таксама было ўсё правільна, але напісана было на іншым узроўні. У творах жа Быкава ёсць і пах снегу, і пах вуліц і дамоў; усё ў яго вельмі проста, і немцы такія ж самыя людзі, як і мы, аднак яны вымушаны былі... Гэта ўсё-ткі настолькі заблытана і перамешана! Аднак гэта і ёсць сапраўднае жыццё... І калі чытаў Быкава, дык вельмі шкадаваў, што кніга заканчваецца, што засталося толькі некалькі старонак, і кожнага разу адцягваў развітанне з творам.

І як можна было паставіць такога пісьменніка ў становішча, каб ён пакінуў радзіму?! (У 1998–2003 гадах Васіль Быкаў, не прымаючы той палітычны рэжым, які ўсталяваўся на Беларусі, вымушаны быў жыць за мяжой: у Фінляндыі, Германіі і Чэхіі. — С. Ш.) Быкаў — гэта не толькі гонар Беларусі, гэта сусветны гонар... Гэтак жа судзілі ў Ленінградзе і пасля адправілі на прымусовую працу вялікага паэта Іосіфа Бродскага. «Тунеядцем» яго называлі, а ён стаў нобелеўскім лаўрэатам і славу прынёс Расіі! Таксама і з Быкавым. Усё нарэшце паварочваецца супраць уладара. Але яны, гэтыя ўладары, не разумеюць гэтага. Не разумеюць, што ўсё павернецца супраць іх, супраць іх палітыкі. Гэта гаворыць толькі пра іх нізкую культуру, пра вельмі нізкую культуру... Каго будуць памятаць праз стагоддзі? Пушкіна ці Бенкендорфа? Бенкендорфа памятаюць толькі таму, што ён быў сучаснікам Пушкіна. А хто быў сучаснікам Мікеланджэла? — а хто ж яго ведае! Аднак быў жа нехта, нейкі папа Рымскі, які лічыўся тады ўладаром. А Мікеланджэла кім быў у той час? — чарвяком... Так і з Быкавым.

Яны павінны разумець, што Пілат, які аддаў Хрыста на смерць, вядомы толькі таму, што вымыў Яму рукі і пашкадаваў Яго. Таму Пілат і побач з Хрыстом. Выключна таму. Таксама і з Васілём Быкавым будзе.

***— І Герастрат стаў вядомы толькі таму, што спаліў храм...***

— Так, а інакш быў бы невядомы. Вось у чым уся справа.

***— З вашага дазволу, Алег Валяр'янавіч, перадам вашы словы Васілю Быкаву.***

— Калі будзеце ў яго, я вас прашу... Ён мяне, напэўна, не ведае, але не ў гэтым справа. Я вас прашу: проста перадайце, што вось такі артыст жадае яму ўсялякіх даброт і каб ён папраўіўся, каб жыў як мага даўжэй. Я нават не магу выказаць майго захаплення, майго пакланення перад гэтым магутным талентам і перад яго праўдай.

# Беларусь зноў апошняя

Генадзь КЕСНЕР

**Беларусь замкнула спіс краін-удзельніц Усходняга партнёрства ў Індэксе свабоды медыя за першае паўгоддзе бягучага года. На першым месцы ў рэйтынгу — Грузія, за ёй ідуць Малдова, Украіна ды Арменія. У хвасце — Азербайджан і Беларусь.**

Штоквартальны Індэкс свабоды медыя Усходняга партнёрства — частка праекта EaP Media Freedom Watch, які ажыццяўляе арганізацыя «Інтэрньюс-Украіна» ў партнёрстве з няўрадавымі арганізацыямі ў пяці іншых краінах Усходняга партнёрства. Індэкс вылічваецца шляхам падсумоўвання атрыманых краінамі балаў па чатырох катэгорыях — «Палітыка», «Практыка», «Тэлерадыёвяшчанне», «Інтэрнэт і новыя медыя». Удзельнічаюць у складанні рэйтынга каля шасцідзесяці экспертаў (іх імёны не агучваюцца) у галіне СМІ.

Па словах намесніка старшыні Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ) Андрэя Бастунца, пасля мінулага года існавала інтрыга, звязаная з тым, што Беларусь магла пакінуць апошняе месца ў індэксе. Але гэтыя спадзяванні былі звязаныя не з тым, што сітуацыя ў Беларусі палепшала. «На гэта магло б паўплываць пагаршэнне сітуацыі ў іншых краінах, у першую чаргу ва Украіне і Азербайджане. Ва Украіне масава парушаліся правы журналістаў падчас падзеяў на Майдане і на ўсходзе гэтай краіны, а ў Азербайджане моцна ўзмацніўся ціск на грамадскіх актывістаў, праваабаронцаў і журналістаў, — адзначыў Бастунец. — Апошняе месца Беларусі ў Ідэксе тлумачыцца тым, што заканадаўства аб СМІ застаецца кепскім».

TV

## 12 КАСТРЫЧНІКА, НЯДЗЕЛЯ

### 1 Беларусь

**07.10** Мастацкі фільм «Бедная Liz».
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Сваты-6» (Украіна).
**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** «Каб усё так geely!».
**14.50, 22.15** Вялікае тэлебачанне.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Вакол планеты.
**16.20** Тэлефільм АТН цыклу «Вялікі рэпартаж».
**16.50** Видеодневник праекта «Я магу!».
**17.10** Мастацкі фільм «Дочкі-маці».
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.25** Мастацкі фільм «Каралева».
**00.20** Камедыйны серыял «Сваты-6» (Украіна).

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. Пін-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.40** «Фазэнда».
**11.10** АНТ прадстаўляе: шоу-гульня «ТБ-таксі».
**11.35** «Гісторыя расійскай кухні».
**12.05** «Ералаш».
**12.55** «Брэйн-рынг».
**13.55** «Рыхт-у-рыхт».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Рыхт-у-рыхт». Працяг.
**17.00** «Насмяшы коміка».
**17.45** «Чорна-белае».
**18.50** «Я люблю Беларусь».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Ледніковы перыяд».
**23.50** Мастацкі фільм «Тое, што ты робіш».

### СТВ

**06.25** «Фірмовая гісторыя». Серыял.
**07.40** Аўтапанарама.
**08.10** Мастацкі фільм «Фабо Мантале. Абуджэнне Хеопса».



**10.00** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Тэрыторыя памылак».
**12.30** «Добры дзень, доктар».
**13.05** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**14.10** Мастацкі фільм «Жорсткі раманс».
**15.35** «Глядзець усім!».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**18.15** СТВ прадстаўляе: вячэрні шоу «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** Мастацкі фільм «Інфарматар».
**22.45** Прафесійны бокс.
**23.55** Мастацкі фільм «Восеньская саната».

### 2 Беларусь

**07.05** Вышэй за дах.
**07.35** Мастацкі фільм «Мільянер нехаця».
**09.20** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**10.10** Мазгавы штурм.
**10.45** Тэлебарометр.
**10.50** Я хачу гэта ўбачыць!
**11.30** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**12.40** Іранічны дэтэктыў «Разумнік» (Расія).
**14.35** «Перазагрузка». Маладзёжнае ток-шоў.
**15.25** Мастацкі фільм «Змяркання. Сага. Маладзік».
**17.50** «Comedy Баттл. Без межаў». Забаўляльная шоу-праграма (Расія).
**19.15** Суперлато.
**20.05** Кіпень.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** Кено.
**21.10** Час футболу. Прэв'ю.
**21.40** Футбол. Еўра 2016. Адборачны матч. Беларусь - Славакія.
**23.40** Час футболу. Прэв'ю.
**23.50** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**00.50** Футбол. Еўра 2016. Кваліфікацыя. Агляд дня.

### 3 Беларусь

**07.50** «Калейдаскоп».
**08.05** «Цудоўныя панове з Буа Дарэ». Мастацкі фільм. 3-я - 5-я серыі (закл.).
**12.20** «Подых струн». Музычная праграма.
**13.00** «Наперад у мінулае».
**13.25** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**14.15** «Калейдаскоп».
**14.30** «Навукаманія». Беларускі атам.
**14.55** «Розныя лёсы Таццяны Пілецкай». Дакументальнае эсэ аб унутранай свабодзе, аб выбары шляху, аб акцёрскай працы, аб адказнасці.
**15.25** «Калейдаскоп».
**15.35** «Старыя казкі». Гісторыя стварэння дзіцячага музычнага фільма «Пра Чырвоную Шапачку».
**16.05** «Пра Чырвоную Шапачку». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**18.15** «Культпрасвет».
**18.50** «Прысяжная». Мастацкі фільм.
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Джазавыя вечары ў філармоніі». Канцэрт польскай вакалісткі Ганны Марыі Йопэк. Удзельнічаюць: Кшыштаф Хэрдзін (фартэпіяна), Пётр Назарук (флейта, вакал), Роберт Кубішын (бас-гітара).
**22.45** «Культпрасвет».
**23.20** «Скачок у волю». Спектакль тэатра Сяргея Янкоўскага. Часткі 1-я і 2-я.
**0.50 «Калейдаскоп».**

### 5 Беларусь

**07.55** Спартыўная гімнастыка. Чэмпіянат свету. Прамая трансляцыя.
**11.45** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. «Цмокі-Мінск» - «Хімкі» (Маскоўская вобл.).
**13.30** Мастацкая гімнастыка. Чэмпіянат свету.
**16.15** Гандобл. Ліга чэмпіёнаў. «БГК ім. Мяшкова» (Беларусь) - «Кіль» (Германія).
**17.45** Спартыўная гімнастыка. Чэмпіянат свету.
**21.40** Футбол. Чэмпіянат Еўропы 2016. Кваліфікацыя. Онлайн дня.
**23.45** Футбол. Чэмпіянат Еўропы 2016. Кваліфікацыя. Беларусь - Славакія.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.45** «Між намі, буслямі», анімацыйны серыял для дзяцей.
**08.10** Фітнес-шмітнес.
**08.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.50** Два на два (тэледыскусія): Антон Болтачка і Таццяна Каліноўская.
**09.25** Беларусы ў Польшчы.
**09.40** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.10** МакраФон: «Minsk-Mixt–2008»: канцэрт гурта «Фляўс і Кляйн».
**10.45** «Між намі, буслямі», анімацыйны серыял для дзяцей.
**11.15** «Mad Men. Утрапёныя-2», серыял.
**12.00** «Час гонару», серыял.
**12.50** «Я люблю дэмакратыю. Грэцыя», дак. фільм, 2012 г., Францыя.
**13.40** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**14.10** Моўнік (лінгвістычная праграма): Трасянка.
**14.20** 54 % (публіцыстычная праграма): Дыеты ці здаровае харчаванне?
**14.40** Два на два (тэледыскусія): Антон Болтачка і Таццяна Каліноўская.
**15.10** «Стрэмкі», маст. фільм, Польшча.
**17.00** МакраФон: Канцэрт «АВ-ВА-аркестру»: ч. 2.
**17.25** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**18.00** Невядомая Беларусь: «Людвіка», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**18.40** «Ранча», серыял.
**19.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.55** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Вацлаў Ластоўскі.
**20.05** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.30** Дакументальная гадзіна: «Сталін», дак. фільм, 2013 г., Францыя.
**21.25** Фільматэка майстроў: «Падзенне», маст. фільм, 2004 г., Германія.
**23.55** «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял.
**00.45** МакраФон: Канцэрт «АВ-ВА-аркестру»: ч. 2.
**01.10** Невядомая Беларусь: «Людвіка», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____________
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя: 3012741108019 Лицевой счет: Код 739
УНП*: 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик
Пеня ______
Всего ______
Кассир

# Папярэдзе бацькі ў Раду

Алег НОВІКАЎ

**Намер сына Пятра Парашэнкі пайсці ва ўладу ўтрымлівае вялікія палітычныя рызыкі для цяперашняга ўкраінскага прэзідэнта.**

Дзеці прэзідэнтаў, прэм'ераў і іншых чыноўнікаў ва ўсіх краінах свету — сталыя аб'екты СМІ і грамадства. Украіна — не выключэнне.

Мода на маніторынг паводзін дзяцей украінскіх палітыкаў узнікла дзякуючы Андрэю Юшчанку — сыну прэзідэнта Віктара Юшчанкі. Увесну 2005 года ён «праславіўся» на ўсю краіну, калі быў затрыманы міліцыяй за тое, што кіраваў чужым аўтамабілем. Скандал выйшаў на новую ступень пасля таго, як Юшчанка-старэйшы, каментуючы мажорскія выбрыкі сына, груба загадаў журналістам «не лезці не ў сваю справу». Праз тры гады «сын бога» (так празвалі Андрэя ў прэсе), будучы п'яным, зладзіў страляніну ў рэстаране пасля пройгрышу ў казіно 100 000 долараў.

Сын наступнага прэзідэнта таксама быў сталым адмоўным героем СМІ. Лічыцца, што менавіта Аляксандр Януковіч па мянушцы «Стаматалог» адказваў за актывы клана, якія імкліва нарошчвал галоўным чынам за кошт «аджыму» бізнэсу. Напярэдадні Еўрамайдана ў рэйтынгу часопіса «Forbes» Януковіч-малодшы займаў чацвёртае месца ў топе найбольш уплывовых персон ва Украіне.

З улікам гэтага не дзіўна, што ўкраінскае грамадства з насцярогай адрэагавала на намер Аляксея Парашэнкі — сына цяперашняга гаранта — таксама пайсці ва ўладу. Навіну пра амбіцыі свайго дзіцяці агучыў сам прэзідэнт падчас прэс-канферэнцыі 16 верасня. «Цяпер мой сын вярнуўся з зоны АТА ў сувязі з ратацыяй. Ён выпрашыў балатавацца ў Вярхоўную Раду. Ён не хаваўся за спісы, а пайшоў на акругу. Гэта адказнае рашэнне дарослага чалавека», — цытуюць Парашэнку журналісты.



**Ва Украіне, калі сын ідзе ў дэпутаты пры бацьку-прэзідэнце, усе тут жа ўзгадваюць Януковіча. І пытаюцца ў сябе: для чаго мы кроў пралівалі? Калі Парашэнка не разумее, што ён не Кенэдзі, а Украіна — не ЗША**

Аляксей Парашэнка нарадзіўся ў 1986 годзе. Як і бацька, па прафесіі дыпламат. Ужо ў 26 гадоў заняў пасаду віцэ-консула ў Шанхаі. Пасля працаваў у бацькавым бізнэсе.

Нягледзячы на тое, што біяграфія маладога Парашэнкі нічым не заплямленая, украінцы не ў захапленні ад ягоных планаў. На інтэрнэт-форумах гучыць перасцярога, што Парашэнка будзе свой аналаг «сям'і» (так празвалі клан Януковіча). «Не паспела астыць крышка залатога ўнітаза, як на яго села дупа новай сям'і. Дзеля таго, каб адна сям'я змяніла іншую, крана згубіла Крым, частку Данбаса, паклала кучу жыццяў, абваліла нацвалюту і эканоміку, раскалола грамадства, засталася на зіму без вугалю, газу і святла», — бурчаць блогеры.

Дэмакратычная грамадскасць таксама лічыць, што Парашэнка дапусціў памылку, даўшы згоду на задуму сына. Віктар Портнікаў, адзін з самых аўтарытэтных украінскіх каментатараў, піша з гэтай нагоды: «Кланавая сістэма ў краіне не разбурана. Але нават у гэтай канфігурацыі Аляксей Парашэнка пайшоў шляхам не найбольшага, а найменшага супраціву. Ён будзе балатавацца па мажарытарцы — факт. Але ад партыі, якая носіць імя яго бацькі і выкарыстоўвае ў перадвыбарнай кампаніі асабістую папулярнасць прэзідэнта замест перадвыбарчай ідэалогіі. І будзе балатавацца не дзе-небудзь, а ў той самай Вінніцкай вобласці, якая даўно ўжо лічыцца тэрыторыяй падвышанай увагі дынастыі Парашэнка... Ва Украіне, калі сын ідзе ў дэпутаты пры бацьку-прэзідэнце, усе тут жа ўзгадваюць Януковіча. І пытаюцца ў сябе: для чаго мы кроў пралівалі? Калі Парашэнка не разумее, што ён не Кенэдзі, а Украіна — не ЗША, то ён дрэнна скончыць. І Украіна — не лепей».

Портнікаў нават сцвярджае, што Парашэнка пераплюнуў самога Януковіча: «Калі гісторыя чаму і вучыць, то толькі таму, што ні чаму не вучыць. Сын Януковіча, які стаў пры бацьку-прэзідэнце адным з уплывовых бізнэс-гульцоў, і тое не палез у палітыку. Гэта пры тым, што ўзровень канцэнтрацыі ўлады ў руках Януковіча-старэйшага быў непараўнальна вышэй, чым узровень рэальнай улады, сканцэнтраванай у руках Парашэнкі-бацькі. І пры жаданні Віктар Фёдаравіч мог зрабіць Аляксандра Віктаравіча дэпутатам ВР, як у свой час Калігула правалок у Сенат свайго каня. І ніхто б не пікнуў. Але малодшы Януковіч у палітыку не палез. Ці сам не захацеў, ці тата падказаў: не трэба, сынку, не будзі ліха. Тата Парашэнка такіх слоў не сказаў. Тата Парашэнка ледзь не заплакаў слязьмі, заявіўшы, што ганарыцца рашэннем сына».

Крытыкі Парашэнкі таксама звяртаюць увагу на супярэчнасці ў заявах прэзідэнта стасоўна яго сына. У ЗША Парашэнка заявіў, што ягоны старэйшы сын «добраахвотна адправіўся ваяваць у зону АТА, дзе камандуе артылерыйскім падраздзяленнем». Па словах прэзідэнта, ягоны сын таксама «заканчвае Ітан, Лонданскую школу эканомікі, INSEAD (французская бізнэс-школа — рэд.), Оксфард».

Намаляваны бацькам партрэт сына-вундэркінда быў успрыняты на інтэрнэт-форумах вельмі саркастычна: «Ён быццам бы служыў у артылерыі, пры гэтым быў добраахвотнікам. Наколькі я памятаю, артылерыі ў добраахвотніцкіх батальёнаў не было». «Аказалася, што ён даўно ўжо паспяхова ваюе з сепаратыстамі. І адначасова з гэтым вучыцца адразу ў чатырох замежных ВНУ. Днём вучыцца, увечары ваюе. Выдатнік!». «Камандзір мінамётнага разліку. Думаю, ваенныя скажуць, што гэта бязглуздзіца. Нельга чалавека, які нават не ведае, што такое дысцыпліна, ставіць камандзірам чаго-небудзь».

Самае непрыемнае для бацькі і сына Парашэнкі — у тым, што прыколамі і скепсісам справа не абмежавалася. Палітычныя канкурэнты ахвотна пачалі шукаць кампрамат на Аляксея Пятровіча. Рэдакцыя блізкай да Цімашэнкі «Украінскай газеты» накіравала на фронт рэпарцёра, які паспрабаваў знайсці сляды баявой дзейнасці Аляксея Парашэнкі. Як піша газета, пакуль пошук аказаўся марным. Ніхто на франтах АТА не чуў пра артылерыйскі разлік пад кіраўніцтвам Парашэнкі. Праўда, газета вызнае, што Парашэнка-малодшы мог ваяваць пад чужым прозвішчам.

Журналісты таксама намагаюцца дакапацца, як Аляксей атрымаў пасаду віцэ-консула ў Шанхаі. Ёсць плётка, што яму дапамог бацька, які на той час кіраваў украінскім МЗС.

Адназначна адмоўная рэакцыя грамадства на дэпутацкія апетыты маладога Парашэнкі вымушае задацца пытаннем — як украінскі прэзідэнт, чалавек дастаткова прагматычны, які ведае забабоны калектыўнай думкі, мог дапусціць такі пракол? Што ім рухала? Якая муха ўкусіла? Калі адкінуць версію пра тое, што ўлада і грошы абсалютна сарвалі дах бацьку і сыну Парашэнкам, пакуль што адзіная больш-менш лагічная версія гэтага яўна непапулярнага кроку звязаная з некаторымі аспектамі парламенцкай кампаніі. Справа ў тым, што прэзідэнцкая партыя — Блок Пятра Парашэнкі — дастаткова размытая з ідэйнага пункту гледжання фармацыя, якая можа не захаваць адзінства ў будучым. У выпадку эрозіі фракцыі прэзідэнт можа разлічваць на вельмі нямногіх. Прысутнасць у парламенце сына, які дакладна не здрадзіць бацьку, напэўна, будзе не лішняй.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Аказалася, што лідарам сімпатый украінцаў сярод замежных кіраўнікоў з паказчыкам 62% з'яўляецца нелегітымны кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Вось вам і еўрапейскія каштоўнасці ўкраінцаў, іх расчараванне ў Расіі, нібыта прыроджанае свабодалюбства і непрыманне любога гвалту і іншых праяў саўка. Такі паказчык не патлумачыш узростам апытаных, не спішаш на магчымыя статыстычныя памылкі і іншыя суб'ектыўнасці. І, калі справа ў некампетэнтнасці, то пажадана б заняцца самаадукацыяй.

**«Новый регион» (Украіна)**

Перамовы па Украіне — першая ластаўка. Лукашэнка можа паспрабаваць ператварыць Мінск у «глабальную пляцоўку» для дыялогу паміж Захадам і Расіяй, якія ўступілі ў працяглую, мяркуючы па ўсім, канфрантацыю. Або ў нейкую біржу ЕС і ЕАЭС, з улікам таго, што еўрапейскія чыноўнікі сталі задумвацца над ідэяй стварэння зоны свабоднага гандлю з Еўразійскім саюзам. Рэалізацыя такога кшталту праекта, здольнага вывесці Беларусь з еўрапейскіх палітычных задворкаў, палепшыць імідж і адначасова абяцае нядрэнныя эканамічныя дывідэнды, не можа не ўпісвацца ў інтарэсы амбіцыйнага Аляксандра Рыгоравіча, які неадназорова казаў пра асаблівасці шляху сваёй краіны. Трансфармацыя Беларусі ў нейкі мост паміж Еўропай і Расіяй (ці нават Захадам і Усходам) можа стаць выключнай рысай функцыянальнасці беларускай дзяржавы і яе «асаблівым шляхам».

**«Courrier Internacional» (Францыя)**

Зразумела, што прадпрымальніцкія хітрыкі беларусаў на самай справе выгадныя і расіянам, бо пасля ўвядзення эмбарга на ўвоз прадуктаў харчавання і асабліва сыравіны з ЕС, на рынку назіраецца дэфіцыт малака, што прыводзіць да росту спажывецкіх коштаў. Але вось з палітычнага пункту гледжання мірыцца з беларускім харчовым рээкспартам ніяк нельга. Гэта што ж атрымліваецца: усе нашы спробы пакараць палякаў, прыбалтаў і іншых еўрапейцаў ні да чаго не прывялі? З іншага боку, прычапіцца пад агульны санкцыйны грэбень з ЕС хітрую, але ўсё ж брацкую нам Беларусь таксама было б няправільна. Бо забарона на ўвоз мяса-малочных прадуктаў шэрагу перадавых беларускіх прадпрыемстваў, якім пагражае Рассельгаснагляд, можа абярнуцца скандалам і разладам двухбаковых адносін. Дайдзі справа да такога фіналу — і ў Расіі наогул амаль не застанецца саюзнікаў у еўрапейскай частцы свету. Таму Рассельгаснагляду наўрад ці дазволяць сячы з пляча беларускі рээкспарт еўрапейскага харчавання.

**Polytika.ru (Расія)**

Беларуская ўлада, грунтоўна ўлічваючы сумны ўкраінскі вопыт, працягвае ачышчацца ад прарасійскай «пятай калоны». Каб не злаваць агрэсіўнага ўсходняга суседа, гэты працэс прахо-дзіць без лішняй агалоскі: прозвішчы чыноўнікаў, заўважаных у сімпатыях да Крамля і шавіністычных ідэяў «Рускага свету», проста ціха знікаюць са спісаў кіраўнікоў.

**«Обозреватель» (Украіна)**

Але, вось цікава, Лукашэнка не праявіў ніякага інтарэсу да малдаўскай апазіцыі, і нават не паклікаў Малдову ў Мытны Саюз. Што ж атрымліваецца: Лукашэнка прыехаў падтрымаць праеўрапейскія ўлады Малдовы? На першы погляд — абсурд, але калі падумаць... Калі падумаць, то довадаў на карысць такога варыянту больш чым дастаткова. Успомнім пра тое, што Лукашэнка падтрымаў украінскі «Майдан», што рэкамендаваў украінцам жорстка расправіцца з сепаратыстамі, а значыць, напэўна, моцна зачапіў гэтым расійскага прэзідэнта. Вось і вырашыў перастрахавацца прымудроны доўгім знаходжаннем у палітыцы Лукашэнка, і пачаў далёкую гульню насустрач Захаду. Каб у выніку не апынуцца заціснутым паміж двума агнямі.

**AVA (Малдова)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### МАЛДОВА. Замест Дня віна будзе два тыдні віна

Мэр Кішынёва Дорын Кіртаакэ прапанаваў падоўжыць святкаванне Нацыянальнага дня віна да двух тыдняў. Ён лічыць, што доўгае святкаванне Дня віннай прадукцыі будзе спрыяць росту эканомікі, а таксама прытоку замежных турыстаў.

Нацыянальны Дзень віна ў Малдове быў уведзены ў 2002 годзе пастановай урада і святкуецца на пачатку кастрычніка. Свята было задумана з мэтай падтрымкі вінаробнай галіны, умацавання вінаробных традыцый, выхавання культуры спажывання віна і прыцягнення турыстаў. У 2003 годзе мясцовы парламент нават ухваліў закон, які вызначае льготны візавы рэжым для замежнікаў на час святкавання Дня віна.

Кіртаакэ лічыць, што арганізатарам Дня віна трэба раўняцца на мюнхенскі «Актоберфэст», які праводзіцца на працягу двух тыдняў і збірае да 6 мільёнаў наведвальнікаў. Памятаючы, што час — гэта грошы, кішынёўскі бургамістр адразу прапанаваў правесці абноўлены фестываль віна з 1-га па 14-га кастрычніка гэтага года. Прапанаваў мэр і свой дэвіз віннага фестывалю: «Шмат, моцна, у меру».

**Паводле малдаўскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Што рабіць з Isis?

З'яўленне на мапе свету самаабвешчанай Ісламскай дзяржавы Іраку і Сірыі, (Isis), якая ў дадатак хутка пачала ваяваць з Захадам, мела камічныя наступствы для брытанскага бізнэсу. Аказваецца, каля ста кампаній, крамаў, цырульняў і г.д. на Альбіёне чамусьці называюцца менавіта Isis. У выніку для шмат каго стала відавочнай неабходнасць рэбрэндынгу.

Першай «капітулявала» буйная фінансавая кампанія Isis Equity Partners, кіраўніцтва якой заявіла, што больш «не можа дэяліць з тэрарыстамі назву». Пасля вырашылі шукаць новы брэнд у мабільнай кампаніі Isis Wallet. Аднак не ўсе гатовыя для пераменаў. Шэраг фірм заявілі, што не будуць мяняць шыльду, паколькі іх ведаюць на рынку менавіта як Isis.

Самая смешная сітуацыя склалася ў мусульманскіх раёнах, дзе шмат кавярняў, якія гандлююць кебабамі, называюцца Isis. Ананімны прадстаўнік спецслужбаў выступае супраць іх перайменавання, паколькі ёсць версія, што ўсе латэнтныя аматары ісламскага экстрэмізму будуць надаваць перавагу месцам з правакацыйнай назвай. Назіраючы за кліентурай кафэ, спецслужбы, быццам, змогуць аператыўна пашыраць базу дадзеных патэнцыйна небяспечных элементаў.

**Паводле брытанскай прэсы**

### МАНГОЛІЯ. Манголы пераносяць сталіцу

Манголія можа папоўніць клуб дзяржаў, якія збіраюцца перанесці свае сталіцы, або прынамсі думаюць пра гэта. Зараз дэбаты на гэтую тэму адбываюцца ў Аргенціне, Іране і іншых краінах. Надакучыла жыць у старой сталіцы і некаторым дэпутатам мангольскага парламенту, якія выступілі з прапановай пра пераезд. Ва Улан-Батары, на іх думку, кепска з экалогіяй і не вельмі ўтульная гарадская планіроўка.

У якасці варыянтаў для новай сталіцы прапануюцца мінімум тры гарады. Сярод іх Хархарын — старажытная сталіца Манголіі, дзе жыў Чынгіз Хан. Праўда, большасць аматараў новай сталіцы належаць да сябраў апазіцыйнай Народнай партыі, якая не мае парламенцкай большасці. Тым не менш, ідэя новай сталіцы, як пішуць газеты, за кошт свайго адкрытага папулізму можа спадабацца і ўрадавым партыям.

**Паводле казахскай прэсы**

### МАКЕДОНІЯ. Незалежная Ілірыдыя

Еўропа відавочна перажывае вясну сепаратызму — Шатландыя, Данбас, Каталонія... Чарга дайшла і да заходняй часткі Македоніі. Тут 20 верасня быў прыняты маніфест пра заснаванне незалежнай краіны Ілірыдыя. Паводле дакументу, у склад новай дзяржавы ўвойдуць некалькі рэгіёнаў Македоніі, дзе пераважна жывуць этнічныя албанцы.

На працягу 1990-х гадоў македонскія албанцы як мінімум двойчы спрабавалі атрымаць незалежнасць ад Скоп'е, аднак у выніку здабылі максімум нацыянальна-культурную аўтаномію. Новая спроба дамагчыся дзяржаўнасці, мяркуючы па рэакцыі прэсы, будзе таксама правальнай.

Па-першае, аўтарам акту пра незалежнасць стаў не абраны прадстаўнічы орган накшталт рэгіянальнага парламенту, а ўсяго адзін палітык — Невзат Халілі, лідар «Першай албанскай партыі Незалежнай Македоніі», які адразу абвясціў сябе першым прэзідэнтам Ілірыдыі. Па-другое, Македонія — краіна-кандытат на ўступленне ў Еўрасаюз, геапалітычнай альтэрнатывы якому на Балканах проста няма. Наўрад ці Брусэль падтрымае Халілі з іх праектам албанскага ДНР, што значыць непазбежны крах Ілірыдыі.

**Паводле польскай прэсы**

# «Чумавыя» нацысты

*Алег НОВІКАЎ*

**Эпідэмія ліхаманкі Эбала правакуе ў Еўропе новую хвалю ксенафобіі і адмоўнага стаўлення да імігрантаў, чым ужо намагаюцца скарыстацца ўльтраправыя партыі.**




Першым сярод ультраправых палітыкаў, які пачаў выкарыстоўваць тэму новай сусветнай чумы, быў патрыярх французскага правага радыкалізму, заснавальнік партыі «Нацыянальны фронт» Жан-Мары Ле Пэн. Яшчэ тры месяцы таму падчас кампаніі на мясцовых выбарах на нейкім мітынгу ён падзяліўся з натоўпам "прыемнай" навіной — Афрыку атакуе новы невядомы медыкам смяротны вірус. У фінале прамовы трыбун выказаў надзею, што «спадар Эбала можа ўсяго за тры месяцы цалкам вырашыць праблему нелегальнай міграцыі з Афрыкі ў Еўропу». Некрафільская рэмарка выклікала шок у грамадстве. Шматлікія палітыкі, вядомыя грамадскія персоны, і нават частка актыву «Нацыянальнага фронту» асудзілі выхадку Жана-Мары.

Нягледзячы на рэзанансны скандал з Ле Пэнам, тэма ліхаманкі Эбала не знікла з лексікону еўрапейскіх правых. Апошнім часам эксплуатацыя тэмы бактэрыялагічнай пагрозы, якая ідзе з Чорнага кантынента, стала адной з галоўных «фішак» правага агітпропу.

Перш за ўсё, рост эпідэміі ў Заходняй Афрыцы разглядаецца як алібі для патрабаванняў зрабіць больш жорсткай эміграцыйную палітыку і перагледзець удзел краінаў у міжнародных праектах. З падобнымі заявамі выступілі фламандская партыя «Vlaams Belang» і венгерская «Jobbik». Абедзве партыі, акрамя новага закона пра іміграцыю, прапануюць цалкам прыпыніць кантакты з краінамі — ахвярамі ліхаманкі Эбала. У якасці лагічнага працягу прапануецца будаваць максімальна ізаляванае ад глабальнага свету грамадства, што, натуральна, патрабуе выхаду з Шэнгену і Еўрасаюза.

У ЗША тэма ліхаманкі Эбала актыўна прывязваецца да праблемы нелегальнай міграцыі з Лацінскай Амерыкі. Напачатку верасня кансерватыўны рэсурс «Drudge Report» запусціў шакуючую плётку. Са спасылкай на ананімныя крыніцы ў эміграцыйных службах, сцвярджалася, што памежнікі затрымалі ўжо 73 мексіканскіх нелегала, хворых на ліхаманку Эбала. Колькасць хворых, якім удалося праравацца ўглыб Злучаных Штатаў, увогуле, калі верыць выданню, вымяраецца дзясяткамі. Адказнасць за катастрофу, натуральна, перакладалася на адміністрацыю Абамы. Безумоўна, істэрыка была разлічаная на вельмі неадукаваную публіку, паколькі ў самой Мексіцы дасюль не зарэгістравана ніводнага выпадку гэтай хваробы.

Нямецкія ж нацыянал-дэмакраты ўвогуле вынеслі тэму ліхаманкі Эбала ў топ сваёй праграмы на зямельных выбарах. У прыватнасці, у выпадку прыходу да ўлады нацдэмы абяцалі падрыхтаваць федэральны праект закона аб абароне нямецкіх грамадзян ад вірусу з Афрыкі. Абавязковай складовай гэтага закону, на думку нацдэмаў, павінна стаць рашучая барацьба з афрыканскімі мігрантамі.

Схема фільтру супраць афрыканскіх мікробаў, на думку ўльтраправых, павінна ўключаць спецыяльныя лагеры, дзе ўсе мігранты з Афрыкі павінны праходзіць каранцін 3–4 месяцы. Знаходжанне ў каранціне афрыканцаў, па іх словах, таксама неабходна, каб навучыць іх сістэматычна карыстацца гігіенічнымі сродкамі. На думку нямецкіх неанацыстаў, у Афрыцы дасюль слаба ведаюць, што такое мыла або шампунь.

Увогуле, забабоны пра тое, што вірус неяк звязаны са слабым узроўнем развіцця цывілізацыі ў Афрыцы, вельмі папулярныя ў праварадыкальных выданнях. За кошт аповедаў пра неадукаваных дзікуноў, якія не чысцяць зубы і не прымаюць душ, папулярызуецца расісцкая тэорыя аб культурнай перавазе белай расы. Некаторыя неанацысты ўвогуле намагаюцца называць ліхаманку Эбала не інакш як «негрыцянская хвароба».

Тэма смяротнай эпідэміі не абышлася і без пошукаў «яўрэйскай змовы». На гэтай глебе больш за ўсіх працуюць неанацысты Швецыі. Як пішуць аўтары публікацый на шведскіх праварадыкальных сайтах, ліхаманка Эбала — прадукт распрацоўкі ізраільскіх вучоных, каб знішчыць усіх, хто не належыць да катэгорыі семітаў. Мадэрнізаваную версію гэтага міфу прапануе арганізацыя «Nordfront». Там таксама пабачылі ў выбуху эпідэміі канспіралагічныя інтрыгі жыда-масонаў. З той розніцай, што ўсе яны, быццам, працуюць у межах нейкай фармакалагічнай кампаніі, якая ставіць вопыты на людзях. Парадокс у тым, што якраз ізраільскія вучоныя на цяперашні дзень найбольш далёка прасунуліся ў распрацоўцы вакцыны супраць ліхаманкі Эбала.

Яшчэ адзін забаўны выверт правай прапаганды — катэгарычная адмова існавання вірусу. На рэсурсе «Altermedia» пішуць, што ніякай смяротнай эпідэміі ў Афрыцы не існуе. Быццам, мы маем справу з мядыйнай плёткай, якую фінансуюць фармацэўтычныя кампаніі з мэтай атрымаць шалёныя дывідэнды на масавай паранойі, што бліжэйшым часам ахопіць увесь Захад. Такая рыторыка ў тым ліку служыць для таго, каб падштурхнуць аўдыторыю да крытычнага стаўлення да іншых звыклых тэмаў — напрыклад, Халакосту або адказнасці Гітлера за развязванне Другой сусветнай вайны. Маўляў, прадажная прэса хлусіць нам па ўсіх франтах.

Наколькі прадуктыўнай можа быць незвычайная стаўка правых радыкалаў на тэму ліхаманкі Эбала? Для адказу на гэтае пытанне трэба ўзгадаць сярэдзіну 1980-х гадоў, калі Захад пазнаёміўся з вірусам СНІДу. Правыя радыкалы ў той час таксама актыўна выраблялі свае міфы наконт паходжання хваробы і формулы яе распаўсюджання. Прапаноўвалася разглядаць СНІД як нейкую «хваробу геяў», якіх неанацысты традыцыйна не любяць за тое, што іх субкультура «падрывае асновы сям'і і маралі». Гэтыя забабоны сапраўды былі падхопленыя кансерватыўнай часткай грамадства, хаця электаральных балаў радыкальным правым гэта не прынесла.

Тым не менш, сёння ліхаманка Эбала патэнцыйна здольная схіліць еўрапейскую дыскусію ў правы бок. Справа ў тым, што ў масавай свядомасці ўсё часцей фіксуюць праявы інстынктыўнай асцярожнасці што да кантактаў з эмігрантамі, прычым не толькі з афрыканскімі. Напрыклад, як піша нямецкая «Süddeutsche Zeitung», у Мюнхене не так даўно ўзнікла незвычайная грамадская ініцыятыва. Яна выступае супраць існавання ў мясцовым аэрапорце інтэрната для бежанцаў, праз які, быццам, у Баварыю можа трапіць ліхаманка Эбала. Пры гэтым арганізатараў пратэстаў і бюргераў, якія іх падтрымліваюць, абсалютна не цікавіць той факт, што ніводны жыхар інтэрнату не паходзіць з Заходняй Афрыкі.

# Фемінісцкая вясна, якая прыйшла ўвосень

Алег НОВІКАЎ

**Набраўшы 14 верасня на парламенцкіх выбарах у Швецыі 4% галасоў выбаршчыкаў, партыя «Фемінісцкая ініцыятыва» вывела рух феміністак у Еўропе на новы якасны ўзровень.**



**Фемінізм з яго канцэптам роўнасці супрацьпастаўляюць мужчынскай палітычнай культуры, якая дамінуе ў калідорах улады. Рух за большую прысутнасць жанчын ва ўладзе бачыцца шмат каму як рэальны інструмент руху грамадства ў бок большай дэмакратыі і талерантнасці**

У далёкім 1980 годзе ды-джэй рускай службы BBC Сева Наўгародцаў жартоўна пераклаў назву песні «ABBA» «Super trouper» як «Выдатнік парашутна-дэсантных войскаў», напэўна з-за тэмы ўдзелу СССР у афганскай вайне. Песню пасля гэтага ў СССР адразу забаранілі, хаця меламаны не разумелі падстаў для рэпрэсій — па-першае, «Super trouper» ніякі не «дэсантнік», а прыбор для асвятлення, а па-другое, у палітыку музыкі «ABBA» ніколі не лезлі.

Аднак гэта было амаль 35 гадоў таму. Цяпер «ABBA» дакладна ўтрымлівае палітычны падтэкст. Адзін з удзельнікаў гурта Бені Андэрсан ахвяраваў партыі «Фемінісцкая ініцыятыва» (FI) мільён шведскіх крон (каля 200 тысяч долараў). Тое ахвяраванне, напэўна, зрабіла ўскосны ўнёсак у сенсацыйны прарыў FI, якая 14 верасня атрымала 4% на выбарах у Рыксдаг (парламент Швецыі). Такім чынам, «Фемінісцкая ініцыятыва» стала першай фемінісцкай партыяй, якая здолела прайсці ў нацыянальны парламент у краінах Еўрасаюза. З улікам таго, што раней увесну партыя атрымала 5,3% на выбарах у Еўрапарламент, некаторыя палітолагі кажуць пра выразны трэнд «фемінізацыі» шведскай і, магчыма, еўрапейскай палітыкі.

«Фемінісцкая вясна, якая прыйшла ўвосень», — пракаментавала адна з газет палітычны працэс у Швецыі.

Грошы ад саліста «ABBA», безумоўна, не з'яўляюцца галоўным фактарам перамогі. Поспех «Фемінісцкай ініцыятывы» звязаны з сацыяльнымі і культурнымі зменамі ў шведскім грамадстве, якія робяць палітычны фемінісцкі рух запатрабаваным не толькі з боку свядомых жанчын, але і вялікай часткі грамадства, уключаючы моцны пол.

Праўда, чыста фемінісцкай рыторыкі ў рэкламных матэрыялах «Фемінісцкай ініцыятывы» хапае. Як ні дзіўна, праявы гендэрнай няроўнасці прысутнічаюць і ў, па нашых мерках, вельмі прагрэсіўнай Швецыі. Напрыклад, заробак жанчын у сярэднім на 14–16% ніжэйшы, чым у мужчын. Нездарма адной з самых гучных акцый FI у свой час стала публічнае спаленне сабраных жанчынамі 100 тысяч крон на знак пратэсту супраць дыскрымінацыі ў заробках.

Аднак наўрад ці выключна жаночая тэма вывела створаную ў 2006 годзе партыю з лігі палітычных маргіналаў (на першых выбарах «Фемінісцкая ініцыятыва» стабільна атрымлівала 0,6–1%) у палітычны бамонд. Інтарэсу да FI перш за ўсё спрыяла характэрная не толькі для Швецыі тэма крызісу даверу да традыцыйных партый. Усё часцей людзі робяць выбар на карысць новых партыйных брэндаў, з якімі яны звязваюць надзеі на кардынальныя змены сістэмы.

Нельга не ўлічыць і ролю асобы. «Фемінісцкую ініцыятыву» вяла на выбары вельмі харызматычная Гудрун Шуман. Самае цікавае, што свой шлях у палітыцы яна пачынала як актывістка партыі «Марксісцка-ленінская ліга барацьбы», якая агітавала будаваць у Швецыі сацыялізм па лякалах Маа Цзэдуна. Пасля Гудрун падалася да былых камуністаў у Левую партыю, і нават пэўны час была іх лідарам, адкуль яе «папрасілі» за перакос у бок фемінізму. Думаецца, што якраз Гудрун дамаглася таго, каб у праграме феміністак быў самы радыкальны сярод іншых шведскіх партый сацыяльны блок — напрыклад, патрабаванне ўвесці шасцігадзінны працоўны дзень.

Напэўна, сама тэма фемінізму разглядаецца ў Швецыі, дзе ў жанчын паводле заканадаўства моцныя правы, трошкі інакш, чым у іншых краінах. Фемінізм з яго канцэптам роўнасці супрацьпастаўляюць мужчынскай палітычнай культуры, якая дамінуе ў калідорах улады. Рух за большую прысутнасць жанчын ва ўладзе бачыцца шмат каму як рэальны інструмент руху грамадства ў бок большай дэмакратыі і талерантнасці. Дарэчы, у кіраўніцтве Ініцыятывы таксама прысутнічаюць мужчыны.

FI таксама здолела стаць сімвалам мабілізацыі грамадства супраць росту ксенафобіі і расізму. Менавіта феміністкі выступілі галоўнымі апанентамі правапапулісцкай партыі «Шведскія дэмакраты». Сімвалічна, што фронтмэнам FI на выбарах у Еўрапарламент была шведка цыганскага паходжання Сарайа Пост. Антырасісцкая кампанія хутка прыцягнула ўвагу за мяжой, — напярэдадні выбараў феміністак падтрымаў вядомы амерыканскі рэп-музыка Фарэл Вільямс. Зразумела, што паслядоўная антырасісцкая пазіцыя надала FI сімпатыю тых шведаў, якія маюць эмігранцкія карані. А гэтая катэгорыя грамадзянаў Швецыі зараз складае каля 15% насельніцтва.

Крытыкі FI лічаць, што фемінісцкі агітпроп, наадварот, спрыяў росту папулярнасці ўльтраправых. Вялікі адмоўны рэзананс у кансерватыўнай часткі грамадства выклікала ініцыятыва «мужчынскага падатку»: спецыяльнага падатку, які павінны плаціць усе шведскія мужчыны ў фонд дапамогі жанчынам-ахвярам згвалтаванняў. Таксама «Фемінісцкая ініцыятыва» не супраць палігамных сем'яў. Падчас выбарчых дэбатаў агучвалася ідэя надаваць удзельнікам полавага акту прававы статус сужонкаў. Такі крок, на думку феміністак, мог знізіць статыстыку згвалтаванняў, бо аўтаматычна робіць ахвяру гвалту суб'ектам сямейнага права і надае правы згвалтаванай на частку маёмасці гвалтаўніка.

Каб выказаць пратэст супраць гэтых і іншых «вычварэнскіх» праектаў FI, шматлікія кансерватары галасавалі за «Шведскіх дэмакратаў», якія найбольш «бадаліся» з феміністкамі падчас выбарчых ток-шоў.

Крытыкуюць «Фемінісцкую ініцыятыву» і за сектанцтва. Партыя адмовілася ўваходзіць у агульны блок левых партый (сацыял-дэмакраты, «зялёныя» і левыя). У выніку 4% галасоў, якія дасталіся феміністкам, не дазволілі левым атрымаць большасць у парламенце. Цяпер для фармавання кабінета ім давядзецца дзяліцца партфелямі з адной з правацэнтрысцкіх партый, вынікам чаго можа быць карэкцыя ўрадавай праграмы, а менавіта памеры інвестыцый ў «сацыялку», што было каньком левай прапаганды на выбарах.

Што чакае FI далей? На гэты конт няма адзінага пункту гледжання. Ёсць думка, што феміністкі стануць копіяй партыі шведскіх «піратаў», чые лозунгі вельмі пераклікаюцца з «Фемінісцкай ініцыятывай». «Партыя піратаў» таксама гучна заявіла пра сябе 6–7 гадоў таму, калі ўвайшла ў Еўрапарламент. Аднак развіць поспех яны не здолелі і паступова інтэграваліся ў рух «Зялёных». Той жа сцежкай, на першы погляд, ідуць і феміністкі, якія, па сутнасці, не маюць з «Зялёнымі» вялікіх праграмных разыходжанняў. Іншымі словамі, поспех «Фемінісцкай ініцыятывы» — гэта толькі забаўны эпізод, выкліканы часовай кан'юктурай.

Адваротны тэзіс заключаецца ў тым, што FI мае патэнцыял стаць партыяй мейнстрыму перш за ўсё за кошт крызісу даверу да старых партый як складовых палітычнай сістэмы, што цяпер яўна патрабуе радыкальных рэформаў. Замацаванню феміністак у сур'ёзнай палітыцы павінен дапамагчы і ўздым фемінісцкага руху ў свеце, выкліканы навінамі са Швецыі. Сапраўды, рэакцыяй на поспех FI ў шматлікіх краінах ЕС сталі заклікі да стварэння аналагічных партый.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Міхаіл Саакашвілі

У грузінскіх СМІ з'явілася інфармацыя пра тое, што ЗША адмовілі экс-прэзідэнту Грузіі Міхаілу Саакашвілі ў прадастаўленні рабочай візы. Калі Саакашвілі сапраўды адмоўлена ў атрыманні рабочай візы ў ЗША, фактычна гэта азначае, што ён не зможа больш разлічваць на палітычны прытулак у гэтай краіне, у якім ён цяпер так мае патрэбу. Як вядома, на радзіме аўтара «рэвалюцыі ружаў» дакладна чакае турма. Там супраць Саакашвілі распачата адразу некалькі крымінальных спраў. Яго падазраюць у перавышэнні паўнамоцтваў пры разгоне мітынгаў у Тбілісі 7 лістапада 2007 годзе, датычнасці да разгрому тэлекампаніі «Імеды», а таксама прысваенні маёмасці памерлага алігарха Бадры Патаркацышвілі.

Аднак падаецца, што гэта толькі кветачкі. Стала вядома, што пракуратура Грузіі прыняла рашэнне аб эксгумацыі цела экс-прэм'ера Зураба Жваніі, які памёр у 2005 годзе пры незразумелых абставінах (лічыцца, што прэм'ер атруціўся газам). Нябожчык быў паплечнікам Саакашвілі па арганізацыі рэвалюцыі, аднак з часам іх адносіны пагоршыліся. Яшчэ ў 2005 годзе журналісты пісалі пра магчымую датычнасць «Мішыко» да забойства Давіда, аднак следства адмовілася ад гэтай версіі. Прэса не сумняваецца, што эксгумацыя Жваніі патрэбна новай грузінскай уладзе для таго, каб павесіць на Саакашвілі яшчэ і «макруху».



### Найіб Карым

Лідар партыі «Новыя лібералы» Найіб Карым мае ўсе шансы ўвайсці ў гісторыю як магільшчык нямецкага лібералізму. Прынамсі, цяжка сказаць, як «Вольныя дэмакраты» (FDP) — вядучая ліберальная партыя ФРГ — змогуць існаваць пасля таго, што задумаў Карым.

Ён стварыў на базе часткі яе сябраў новую партыю — «Новыя лібералы», устаноўчы сход якой прайшоў 27 верасня. Новая партыя, на думку яе ініцыятараў, павінна перагледзець усе старыя догмы лібералізму, і перш за ўсё адмовіцца ад культу рынкавай гаспадаркі. Толькі за кошт левага рэвізіянізму нямецкі лібералізм, як лічаць новыя лібералы, можа выйсці з цяперашняга крызісу.

Сапраўды, FDP пасля правалу на парламенцкіх выбарах мінулага года, калі партыя ўпершыню з 1949 года не прайшла ў Бундэстаг, церпіць правал за правалам. На апошніх трох земельных выбарах ліберальная павестка дня карысталася падтрымкай каля 3% выбаршчыкаў. Цяжка сказаць, наколькі ініцыятыва Карыма ёсць панацэяй ад калапсаў лібералаў, аднак пазіцыі FDP ён дакладна падарве. Між тым, кіраўніцтва FDP разглядае феномен «Новых лібералаў» выключна як бунт сваёй гамбургскай секцыі.



### Рула Гані

Першая лэдзі Афганістана Рула Гані, як піша прэса, зрабіла сапраўдную феміністычную рэвалюцыю: падчас прэзідэнцкай інагурацыі 29 верасня знаходзілася на сцэне побач з мужам. Ніколі ў папярэдняй гісторыі Афганістана жонкі прэзідэнтаў або лідараў краіны не з'яўляліся на публіцы разам са сваёй моцнай паловай.

Прэса таксама акцэнтуе ўвагу: у сваёй прамове новы прэзідэнт выказаў падзяку жонцы, што таксама вельмі незвычайна для Усходу. Праўда, сярод каментатараў няма кансенсусу наконт таго, ці будуць афганкі капіяваць стыль новай першай дамы. Справа ў тым, што ў Афганістане дамінуе іслам, а Рула — хрысціянка амерыканска-ліванскага паходжання.

Дарэчы, інаўгурацыя афганскага прэзідэнта 29 верасня ўвойдзе ў аналы не толькі з-за публічнага з'яўлення першай лэдзі. Як сцвярджаюць гісторыкі, гэта быў першы выпадак мірнай перадачы ўлады за ўсю гісторыю краіны. Таксама ўпершыню ў гісторыі Афганістана былы кіраўнік краіны, пасля таго, як пазбавіўся ўлады, застаўся жывы.

# Дублінскія нататкі

## Розныя вобразы прыводзяць гасцей у Ірландыю

Маргарыта ТАРАЙКЕВІЧ

**Чым прываблівае Ірландыя? Морам і маляўнічымі пейзажамі. Ірландскай гасціннасцю, кельцкімі легендамі. Музыкай і танцамі. Ці змагарнай гісторыяй? Гэты брэнд, у адрозненне ад іншых, не прадстаўлены на сувенірах.**


**На заднім плане — партрэты пісьменнікаў. З узгадкай, што большасць англійскіх класікаў мае ірландскае паходжанне**

### Апраўданыя чаканні

Ірландыя апраўдала чаканні і сагрэла душу. Спачатку адкрыццём, што яна сапраўды зялёная, — калі ў ілюмінатары паказаліся камяністыя абрысы эмеральдавых выспаў. Потым — кавай і гарбатай, якія наліваюць паўсюль, і вялізнымі порцыямі. Размовамі ў пабе, у тым ліку пра нацыянальную гісторыю — мы ж знаходзім тое, чаго шукаем... Развесяліла адкрыццямі кшталту таго, як у Дубліне пераходзяць вуліцу — кіруючыся не правіламі дарожнага руху, а адно здаровым сэнсам. Ці таго, як збіраюць грошы на дабрачыннасць: то скачуць паўголымі ў гарадскую рэчку Ліфэ, то арганізуюць жаночы марафон масавасцю ў 50 тысяч удзельніц, так што ідзеш уздоўж дарогі, а плынь бягучых жанчын у стракатых майках усё не заканчваецца, і пачынаеш верыць у непераможнасць ірландцаў... Парадавала згуртаванасцю вялікіх сем'яў і, з другога боку, незамкнёнасцю ў сямейным коле, адкрытасцю да сяброўскіх і прыяцельскіх стасункаў. Уразіла прыгажосцю мора, узбярэжжа, салёнага балота з багаццем траваў і птушак — хаця часу было няшмат, і я амаль не выязджала з Дубліна. Зачаравала гісторыяй і баявым духам, — але і жахнула, і сталася грозным папярэджаннем аб крывавых пабочных эфектах... Парадавала і элементамі мультыкультуралізму, рознакаляровымі тварамі новых ірландцаў, традыцыйна левай арыентацыяй нацыяналізму і адсутнасцю ў парламенце моцнага антыімігранцкага лобі... І ўнушыла аптымізм плёнам працы патрыётаў, якія вярнулі з забыцця кельцкі эпас і адрадзілі мову.

### Традыцыйная страва — бульба

Камяністая глеба не вельмі прыдатная для земляробства. Можа, таму ірландцы такія ўпартыя змагары, што ім даводзілася стагоддзямі дзяўбці рыдлёўкамі цвярдэчу зялёнай выспы?..

У сярэдзіне XIX сагоддзя хвароба знішчыла ўраджай бульбы, і здарыўся голад, які забраў жыцці, па розных падліках, ад 500 тысяч да 1,5 мільёна чалавек. Яшчэ 1,5 мільёна ірландцаў з'ехалі з краіны, каб зарабіць сабе на хлеб за мяжой. Многія адправіліся ў Амерыку, дзе стварылася найвялікшая ў свеце ірландская дыяспара; дзе некаторыя працадаўцы проста пісалі ў аб'явах, што ірландцаў не чакаюць; дзе, тым не менш, безліч ірландцаў не толькі жылі і працавалі, але і развівалі свой нацыянальны рух; і дзе зараз штогод праходзіць найвялікшы ў свеце парад у дзень святога Патрыка, прысвечаны памяці людзей, якія загінулі падчас Вялікага Голаду.

Сёння, дзякаваць Богу, у Ірландыі ёсць што есці. Бульба, вараная і падсмажаная розным чынам, мяса з натуральнымі соўсамі, дзівосны гарнір з хлебных крошак, яешня са шкваркамі з падсмажанымі грыбамі і каўбаскамі, якую традыцыйна ядуць на суботні сняданак... Ірландская кухня — смаката на самы што ні ёсць беларускі густ. І разнастайнасць гаркаватага піва.

### Ірландскі шанец

The luck of the Irish — устойлівы выраз. Ёсць павер'е, што ірландцам шанцуе. Ірацыянальнасць, хаатычнасць і здольнасць дзейнічаць у сітуацыі хаоса робіць з ірландцаў, паводле стэрэатыпу, добрых ваяроў. Плюс за рысу нацыянальнага характару лічыцца здольнасць не пераживаць з-за праблем і небяспекаў. Калі хто здольны арганічна дзейнічаць у сітуацыі хаосу, якім часта падаецца непрадказальнае жыццё, — то напэўна ж яму пашанцуе. З вялікай верагоднасцю... якой, тым не менш, не хапіла многім годным людзям. Напрыклад, ірландцам, якія ў вялікай колькасці плылі ў Амерыку за лепшай доляй на лайнеры «Тытанік»... Ці Роберту Эмету (1778–1803), які сваёй храбрасцю заслужыў словы аб тым, што «ягоная спроба паўстання сталася трагікамічнай, і толькі тая годнасць, з якой ён прыняў смерць, забяспечыла яму месца ў шэрагу народных герояў» («Кароткая гісторыя Ірландыі»).

### Гісторыя Ірландыі

Для таго, каб расказаць гісторыю Ірландыі, спатрэбіцца не адна кніга. Таму застаецца абмовіцца, што зараз мы складзем адвольны букецік міфаў.

Цывілізацыя кельтаў — таямнічы падмурак гэтай незвычайнай краіны.

Гісторыя IX–X стагоддзяў звязаная з вікінгамі, якія аселі на востраве. Мясцовая бяда праз тоўшчу гісторыі сталася мясцовым брэндам. Ад вікінгаў, лічыцца, ідзе руды колер валасоў многіх ірландцаў.

...Святы Патрык нарадзіўся на тэрыторыі сучаснай Францыі, падлеткам трапіў у палон і апынуўся ў Ірландыі. Потым яму пашчасціла атрымаць вызваленне. Але натхненне прывяло яго да рашэння вярнуцца на востраў у якасці місіянера. Лісток канюшыны, які стаўся сімвалам Ірландыі, св. Патрык выкарыстаў, каб наглядна растлумачыць догму аб Святой Тройцы.

...У XII стагоддзі частка краіны была падпарадкаваная англійскай кароне. Але сапраўдны праектператварэння каталіцкай Ірландыі ў частку пратэстанцкай Англіі распачаўся пры дынастыі Цюдораў — і стаўся гэты праект адной з гістарычных ілюстрацый таго, як чалавечыя амбіцыі імкнуцца перакроіць навакольную рэчаіснасць паводле свайго густу, але на выхадзе атрымліваецца зусім іншае...

На шчасце, чалавек — істота свабодная. Таму спробы падладзіць яго пад нечы густ выклікаюць у ім агрэсію. Ды, на жаль, чалавек схільны да злапомнасці і помсты, а таксама — да перавышэння самаабароны...

Цюдоры стварылі так званую «Ольстэрскую плантацыю» — засяленне ірландскіх земляў пратэстантамі, з дыскрымінацыяй католікаў. Католікі паднялі паўстанне (1641–1652 гадоў), падчас якога было забіта мноства пратэстантаў, у тым ліку жанчын і дзяцей... Прыйшоў Олівер Кромвель, здушыў паўстанне, не забыўшыся надаць сваёй кампаніі рэлігійна-маральнага пафасу пакарання грэшнікаў. Падчас заваявання Ірландыі Кромвелем загінула, па розных падліках, ад 16 да 56 працэнтаў насельніцтва Ірландыі. Сярод жорсткасцяў здушэння бунту асабліва вылучылася масавае забойства падчас узяцця Драгеды...

«Ольстэрская плантацыя» мела сваёй мэтай зрабіць Ірландыю часткай пратэстанцкай Англіі, але — што вырасла, тое вырасла. Супрацьстаянне пратэстантаў і католікаў, поўнае актаў жорсткасці з абодвух бакоў, — факт не толькі XVII, але і XX стагоддзя, а абрысы Паўночнай Ірландыі з вялікай дакладнасцю супадаюць з тэрыторыяй той злашчаснай плантацыі... Апошняй нацыянальнай бядой сталіся тэракты і забойствы ў 70–90-х гадах XX стагоддзя. Зараз пацішэла — мажліва, не толькі дзякуючы дамовам і працы праваахоўных органаў, але і дзякуючы еўраінтэграцыі: пытанне межаў зараз стаіць меней востра.

Гісторыя Ірландыі поўнілася барацьбой за веру, культуру і ідэнтычнасць, у мяккіх і жорсткіх варыянтах. Таемная матрыца кельцкага востраву і культурны ўплыў Англіі, у які самі англічане верылі як у «цывілізуючае» ўздзеянне. Дыскрымінацыя католікаў і «каталіцкая эмансіпацыя» ў XIX стагоддзі — паступовае набыццё імі роўных з пратэстантамі правоў. Нацыяналістычныя міфы і самакрытычна-рэвізіяніцкія ў іх сумневы.

### Жахлівае харaство

Жахлівае харaство 1916 года сталася адным са знакавых, нечаканых і заканамерна міфалагізаваных паваротаў гісторыі.

...Які сэнс вянчацца з чалавекам, якога назаўтра расстраляюць? — Не ведаю, ці дала камусьці адказ на гэтае пытанне Грэйс Гіфард, жонка Роберта Планкета, пакаранага смерцю за паўстанне 1916-га.

Мо яна таемна спадзявалася, што чалавека, які вось толькі ажаніўся, вырашаць памілаваць, ці што ім дазволяць застацца разам доле́й, чым на тыя дваццаць хвілін... Мо і так, але, хутчэй, гэты крок быў зроблены папросту «ад душы», ірацыянальна і рашуча... Калі Грэйс дазналася пра прысуд, яна набыла ў краме заручальны пярсцёнак (крамар узгадваў заплаканыя вочы дзяўчыны) — і павянчалася з асуджаным проста ў турме. І словы жаніха, сказаныя ў адным з ранейшых лістоў («...Ты выйдзеш замуж за мяне і ні за каго іншага!»), збыліся: Грэйс да самай смерці заставалася місіс Джозэф Планкет.

Гатычная сцэна вянчання ў паўзмроку пад турэмнымі скляпеннямі — сталася часцінкай той «жахлівай прыгажосці», якую прынесла Велікоднае паўстанне 1916 г., калі, як адзначыў Уільям Йетс, «Allchanged, changed utterly: A terrible beauty is born» («Усё змянілася, змянілася напоўніцу: нарадзілася жахлівая прыгажосць»).

...Паўстаннем 1916-га кіраваў паэт Патрык Пірс. Склад змагароў быў розны паводле паходжання і заняткаў. Творчых асобаў было нямала, што выявілася як у пафасе крывавай самаахвярнасці (у час, калі ідэя ўзброенага паўстання здавалася нечым старамодным), так і ў ірацыянальнасці і дрэннай арганізацыі. Гісторыю можна прыводзіць як чарговы прыклад таго, як небяспечна творчым людзям лезці ў палітыку, а ўжо зброя ў руках мастака — то зусім трывожны знак. Патрык Пірс з аднадумцамі захапіў галоўпаштамт і іншыя будынкі ў цэнтры Дубліна. Яны абвясцілі свабоду нацыі і сталі чакаць атакі. Дачакаліся не толькі куляў, але і пушачных стрэлаў, якія разбурылі цэнтр Дубліна. Здаліся, каб спыніць смерці сярод мірнага насельніцтва.

«Дзеці рэвалюцыі» — так завецца сённяшні праект ушанавання памяці дзяцей ва ўзросце да 16 гадоў, якія загінулі падчас паўстання і яго здушэння.

Графіня-феміністка Канстанцыя Маркіевіч перад тым, як здаць зброю, пацалавала свой маўзер і прамовіла: «Урэшце мы здолелі зрабіць лепей, чым Эмет»... (Паводле некаторых сведчанняў, яна назвала імя іншай гістарычнай асобы).

Тым не меней, здзейсніўся ірацыянальны спадзеў Пірса на сілу крывавай ахвяры. Расстрэлы паўстанцаў далі нечаканы штуршок да народнай барацьбы за незалежнасць.

Нечакана — бо напачатку ў народзе іх асуджалі. Але прадстаўнік уладаў, які задушваў паўстанне, паабяцаў «зрабіць так, што яшчэ сотню гадоў тут не будзе і шэпту пра змову», — і зрабіў фатальную памылку: перабольшыў з жорсткасцю...

Смяротныя прысуды, іх паспешлівае выкананне, якое нагадвала, паводле словаў сучасніцы, струмень крыві, што працякае з-пад зачыненых дзвярэй, — хутка стварылі вакол паўстанцаў пакутніцкі арэол. Сімпатыі народа перайшлі на іх бок і натхнілі на барацьбу за незалежнасць. Тая барацьба прынесла многа больш жорсткасці і пакутаў, чым вясна 1916 года, і скончылася атрыманнем амаль поўнай незалежнасці ў 1921-м. Але паколькі Паўночная Ірландыя засталася пад брытанскай уладай, многія патрыёты не прынялі такога пагаднення, і за англа-ірландскай вайной прыйшла вайна грамадзянская, у якой ранейшыя змагары за незалежнасць апынуліся па розныя бакі. Нязгодныя з кампрамісам пацярпелі паразу.

Улікy нязгодных была і згаданая вышэй Грэйс, місіс Джозэф Планкет, у дзявоцтве Гіфард. Ёй, грамадскай актывістцы і

мастачцы, давялося пасядзець у турме ўжо ў час Ірландскай Вольнай Дзяржавы (Irish Free State), якую некаторыя лічаць ваеннай дыктатурай. А ў старасці Грэйс, паводле ўспамінаў пляменніцы, адзіная не падымалася з крэсла ў тэатры, калі выконвалі дзяржаўны гімн. Як і некаторыя іншыя паўстанцкія ўдовы, яна не прымала пагаднення, якое саступала Брытаніі шэсць графстваў Паўночнай Ірландыі.

Як па мне, дык добра, што прыхільнікі веры ў моц Жорсткіх Мераў прайгралі. Заўжды добра, калі прыхільнікі страху і расстрэлаў памыляюцца, недаацаніўшы храбрасць апанентаў! Але ж зусім сумна, што барацьба за незалежнасць вылілася ў тэрор.

### «Я мог бы быць горай»

«Я мог бы быць горай», — мовіў падлетак Майкл Колінз у размове з сястрой. Калі аказалася, што ён любіць раман Дж. Эліот «Млын на Флосе», і Майкл адзначыў: «Мы з табой, як Том і Мэгі Тулівер», — а старэйшая сястрычка заўважыла, што ён ніколі не мог бы быць такім жорсткім, як Том...

Калі мы перанясем свой аповед яшчэ на некалькі дзесяцігоддзяў раней, то пабачым сельскую школу, у якой ад ірландскіх дзяцей запатрабавалі сказаць: «Дзякуй Богу, што я шчаслівае англійскае дзіця». Але адна дзяўчынка ўсклікнула: «Дзякуй Богу, што я шчаслівае ірландскае дзіця!»... Яе моцна пабілі і выгналі са школы. Дзяўчынка давучылася ў адной з так званых hedgeschool — неафіцыйных інстытутаў адукацыі для каталіцкіх дзяцей.

Дзяўчынка звалася Марыяна О'Брайян. Пабраўшыся шлюбам з пажылым фермерам і нарадзіўшы некалькі дзяцей, яна праславілася між суседзяў як працавітая і гасцінная гаспадыня, а на ўсю краіну — як маці Майкла Колінза (1890–1922). Аднаго з лідараў ірландскага супраціву, чалавека, які агарнуў краіну сеткай шпіёнаў. Арганізаваў тэрор супраць прадстаўнікоў англійскага ўрада і тых, хто ім дапамагаў.

...Падчас задушэння паўстання 1916-га некаторыя англічане праявілі захаплянную павагу да бунтаўшчыкоў, — але выпадкам процілеглага стаўлення былі паводзіны чалавека, які ў турме здзекаваўся з арыштаваных. Напрыклад, адзін з паўстанцаў, вельмі сталага ўзросту, быў распрануты дагала. Гэты здзек адбываўся ў перапоўненай камеры, у якой сярод вязняў быў і Майкл Колінз, якому потым пашанцавала выжыць, бо брытанцы спынілі расстрэлы, бачачы, што народныя сімпатыі схіляюцца на бок паўстанцаў. А памяць Майкла Колінза была як база дадзеных... і арганізатар здзекаў быў забіты па загадзе аднаго з рэйдаў ІРА.

Гэтак жа сама, як М. Гандзі лічыцца вынаходцам негвалтоўнага супраціву, — Колінза лічаць вынаходцам сучаснага тэрарызму ў гарадскіх умовах. Гэтыя два чалавекі з розных куткоў Брытанскай імперыі моцна паўплывалі на сусветную практыку палітычнай барацьбы...

Высакароднасць паўстанцаў 1916 года і чалавечнасць, якую праяўлялі некаторыя англічане, — гэтую рыцарскую прыгажосць нібыта спрабавала ўтапіць у крыві ўзаемная жорсткасць падчас англа-ірландскай вайны... Падчас якой гінула і пакутавала мноства і змагароў, і нон-камбатантаў.




Дублін

Помнік Джэймсу Джойсу, знакамітаму дублінцу

У 1921 годзе брытанцы пайшлі на саступкі. Група ірландскіх лідараў, у якой быў і Майкл Колінз, падпісалі пагадненне (з брытанскага боку яго падпісаў Уінстан Чэрчыль), згодна з якім Ірландыя атрымала незалежнасць — але без шасці паўночных графстваў, у якіх пратэстанты і прыхільнікі звязу з Англіяй былі супраць аддзялення.

Далёка не ўсе пабрацімы Колінза былі згодныя з такім кампрамісам — і здарылася грамадзянская вайна.

Самога Колінза застрэлілі невядомыя — найверагодней, байцы ІРА з ліку нязгодных з пагадненнем. Я б сказала, што ён загінуў ад кіпцюроў пачвары, якую сам стварыў, — тонам хутчэй рамантызатарскім, чым маралізатарскім.

А вось як можна быць незадаволенымі, атрымаўшы пасля стагоддзяў прыгнёту незалежнасць большай часткі краіны, — таго мая беларуская душа не ўяўляе. Я б пабаялася спакушаць лёс.

А пра шаноўную Марыяну О'Брайан і яе сына, а таксама ягоных сясцёр і іншых членаў сям'і, што актыўна ўдзельнічалі ў супраціве, — вось што скажам. Калі не хочам атрымаць сабе падобную скулу — будзьма паважліва ставіцца да дзяцей і дарослых, да ўсіх народаў і іх права на самавызначэнне. Тое не панацэя — але ж змяншае верагоднасць агрэсіі. А накладаць лапу на чужую свабоду і ідэнтычнасць — пагана само па сабе, незалежна ад вынікаў

### Мой улюбёны ірландскі герой

Гэта, аднак, зусім не Майкл Колінз. Дый нават не харызматычны трагедыйны аптыміст Патрык Пірс. Гэта ўвогуле не адзін з ірландскіх нацыяналістаў.

Той чалавек жыў у XVII–XVIII стагоддзі і вядомы нам праз творы, якімі ён, адукаваны настаяцель кафедральнага сабора ў Дубліне, бавіў вольны час — «Падарожжаў Гулівера».

Джонатан Свіфт (1667–1745) нават не дужа любіў Ірландыю — і тым болей велічнай падаецца нам ягоная праваабаронччая дзейнасць. Пратэстанцкі святар змагаўся за правы католікаў. Відаць, гэта быў чыста маральны імпульс барацьбы супраць несправядлівасці.

У той час католікі былі пазбаўленыя права валодаць зямлёй. Дыскрымінацыйныя законы дадавалі іх да галечы; а калі справы ў католікаў пайшлі лепей праз жывёлагадоўлю, то брытанцы забаранілі экспарт ірландскіх тавараў у Англію.

І тады Джонатан Свіфт у сваіх памфлетах пачаў заклікаць ірландцаў да байкоту англійскіх тавараў. Паколькі аўтар быў вядомай асобай, улады не рызыкнулі яго арыштаваць, а замест гэтага арыштавалі ягонага друкара. Але Англія ўсё ж была прававой дзяржавай, і друкар быў апраўданы.

Праблему пратэстантаў і католікаў Дж. Свіфт іранічна прадставіў у «Падарожжах Гулівера» як супрацьстаянне востраканечнікаў і тупаканечнікаў. А яшчэ з-пад ягонага пяра выйшаў твор, які выкрываў уціск католікаў сродкамі зусім радыкальнае сатыры — пад назвай «Сціплая прапанова наконт таго, як зрабіць, каб дзеці католікаў не рабіліся цяжарам для іх сем'яў і для краіны, а каб яны прыносілі карысць грамадству».

«Прапанова» заключалася ў тым, каб... есці дзяцей «у тушаным, смажаным, печаным ці вараным выглядзе», а са скуры іх рабіць пальчаткі. Аўтар абгрунтаваў сваю думку эканамічнай выгадай такога радыкальнага рашэння, а таксама заўважыў, што адначасова зменшыцца колькасць папістаў...

Уяўляю, у якім стане палітычнага раздражнення можна такое напісаць; але шчырае захапленне адчуваеш ад таго, што гэтае раздражненне ў Дж. Свіфта выклікала несправядлівасць у адносінах да той сацыяльнай групы, да якой ён — пратэстант і сын англічаніна — не належаў... Хаця — маці ж яго была ірландка.

### Гістарычная памяць

Гістарычная памяць Ірландыі — жывая і поўная спрэчак, што працягваюцца да сёння.

А на галовах помнікаў нацыянальным героям любяць сядзець вялікія чайкі. Некаторыя дык і не часта ўбачыш без тлустага птаха. Аддай сілы і/ці жыццё ў служэнні народу і атрымай баклана сабе на галаву. Як па мне, дык гэта зусім не прыніжае героя. Рабі, змагайся, памірай — дзеля людзей, дзеля праўды, дзеля сабе, нарэшце. Але ж што датычыцца славы — то бачыш як яе непрадказальнасць, так і камічнасць яе вобразаў.

Ірландскія пацыфісты — рэдкі падвід.

— Хто, — запытваюся ў гіда, — з ірландскіх нацыяналістаў быў пацыфістам?

— Ніводны!.. У Ірландыі ніколі не было моцнага пацыфісцкага руху.

— Хаця не, — працягвае гід, — быў у нас адзін пацыфіст...— Ён распавядае пра Ф. Шыхі-Скефельгтана, патрыёта, пацыфіста і яшчэ змагара за правы жанчын... Нарацыя атрымліваецца насмешлівая: быў адзін пацыфіст, дый таго забілі за паўстанне, у якім ён не ўдзельнічаў.

Тым не менш, прыхільнікі ўмераных ідэй, кшталту самакіравання (home rule), мірных метадаў, прынамсі парламенцкіх — характэрная рыса нацыянальнага руху.

«Але большасць ірландцаў не цікавяцца рэвальверамі і байкамі, — піша аўтар дзіцячага тэксту. — Яны хочуць танчыць, слухаць музыку...» У адносінах да якой часткі ірландцаў гэта не спраўджваецца?..

Я люблю і шаную баявы дух, але пры гэтым супраць гвалту. Такое спалучэнне сімпатыяў часам прычыняе боль.

Шукаючы і патрыятызму, і пацыфізму, я знайшла Сару, 17-гадовую дзяўчыну, якая працуе ў пабе. Яна лічыць, што ірландская мова найпрыгажэйшая ў свеце, і навучыла мяне некалькім фразам. Зайшла размова і пра персаналіі... «Майкл Колінз — дзёбаны прыдурак!» — прыкладна так я зразумела эпітэт, якім яна ўзнагародзіла трагедыйную постаць.

На шыі ў Сары боўтаецца ружовы «пацыфік». Я запыталася, ці лёгка быць пацыфістам у Ірландыі; адказ быў станоўчым, з удакладненнем, што зараз большасць людзей не хоча бойкі. Спадзяюся.

Ірландская мова — гэта нацыянальны скарб, які ў XIX стагоддзі быў занядбаны; але энтузіясты адрадзілі мову, якой пагражала знікненне. Яе вучаць у школах, але ў Дубліне яе пачуць можна толькі ў пэўных месцах. Але ёсць рэгіёны, дзе размаўляюць толькі на гэльскай.

Я тлумачыла ірландцам, што у нас беларуская мова — як у іх ірландская, але што гэта мова той жа групы, што і руская, так што лёгка весці двухмоўны дыялог. Так я і сама зразумела, што нам, беларусам, вельмі пашчасціла.




# Тату з нацыянальнай эстэтыкай

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Прадстаўнікі беларускага року павінны рабіць беларускія татуіроўкі. У Мінску прайшоў другі музычны TATTOO-FEST.**


Гурт «ZATOCZKA»


Аляксандр Памідораў распавядае пра свае тату


Конкурс тату сярод дзяўчат


Гурт «SAMADO BROTA»

Спачатку TATTOO-FEST быў задуманы як супольны праект прадстаўнікоў некалькіх творчых напрамкаў: майстры тату мусілі дэманстраваць сваё ўмельства і мастацкі густ, а музыканты — музычныя кампазіцыі і прыхільнасць да ўпрыгожвання свайго цела. Але ў гэтым годзе II TATTOO-FEST быў пабудаваны па іншай схеме. Татуіроўшчыкі правялі сваю канвенцыю ў сталічным Палацы чыгуначнікаў, а музыканты свой музычны TATTOO-FEST — у мінскім клубе «RE:PUBLIC».

Арганізатар і натхняльнік гэтага фэсту, майстар татуіроўкі, па большасці нацыянальнага каларыту, лідар гурта «ZNICH» Алесь Таболіч патлумачыў, што фестываль павінен прадэманстраваць тое, што прадстаўнікі беларускага року павінны рабіць сапраўды беларускія па тэматыцы татуіроўкі. У якасці доказу сваёй пазіцыі ён прадэманстраваў асабістыя дызайнерскія напрацоўкі ў гэтай галіне мастацтва — тату-абярэг на аснове старажытнага беларускага арнаменту, які ў Алеся «набіты» на руцэ, і выяву казачнага Цмока на плячы.

Тым часам распачалася фестывальная праграма. Першымі на сцэну быў запрошаны гурт «SAMADO BRATA», які выконваў жвавы цяжкі рок з дамешкамі поп-музыкі, фолку, панку, з сола на акардэоне і вакалам, які граў гэтым разам інструментальную функцыю. «Песня пра маму», «Песня пра страшнае» і іншыя творы гурта патроху разварушвалі публіку, якая завітала на TATTOO-FEST. Адзначу вакаліста гурта, які ў сваіх спевах выкарыстоўваў эфект кантрасту: то спяваў гроўлам, то фальцэтам, а тое і чытаў запраўскі рэп пад metal-суправаджэнне сваіх калегаў-музыкантаў.

Магілёўская легенда — скапанк-гурт «ZATOCZKA» выйшаў на сцэну клуба ў добрым гуморы, хоць публіка працягвала збірацца. Баявога настрою музыкантам надаў факт узнагароды лідара гурта Макса спецыяльным дыпломам і прызам за лепшую па выніках інтэрнэт-галасавання татуіроўку рок-музыканта. «ZATOCZKA» ў сваёй рэзкай і гучнай рок-н-рольнай манеры выканала шэраг хітоў са свайго рэпертуару — кампазіцыі сацыяльнай скіраванасці «Я нарадзіўся тут», «Аборт», «Свабода», «Заточка». Трэба адзначыць, што мінская публіка добра ведае гэтую каманду і заўсёды сустракае яе бурнымі эмоцыямі і апладысментамі. Тое ж здарылася і гэтым разам.

З берасцейскім гуртом «TERRAKOD» слухачам і аўтару гэтых радкоў давялося шчыльна пазнаёміцца на фэсце «Амбасовішча–2014». Там гурт неяк згубіўся сярод больш вядомых і спрактыкаваных у фестывальнай стыхіі каманд. Але цяпер, на TATTOO-FEST, музыканты быццам расправілі плечы: гурт загучаў зладжана, прафесійна, і іх folk-metal пад беларускую дуду адрадзіў у зале клуба атмасферу разняволенасці і ўнутранай свабоды. Гэтаму спрыялі і даволі прафесіянальныя спевы вакалістаў гурта — Касі Леванюк і Байсана, якія спявалі паасобку ў розных вакальных манерах — экстрэмальным і фальклорным. Гэтая ўзаемазамяняльнасць і кантрастнасць надавала такім кампазіцыям гурта, як «Пакой 101», «Мята», «Брудныя танцы» арыгінальнасці і драйву.

Гурт «NAKA» і яе лідар Наста Шпакоўская прадставілі публіцы шэраг сваіх беларускамоўных кампазіцый: «Бяжы», «Муза», «Пагоня». Здавалася б, толькі засталося пачуць знакамітую купалаўска-мулявінскую «Малітву», каб забыцца на тое, што таленавітыя беларускія музыканты працуюць у рэчышчы «рускага рока». Але не, пакуль «NAKA» жыве на «дзве душы», і гэты парадокс разрывае іх творчасць на нераўназначныя часткі. Да прыемнасцяў трэба аднесці той факт, што ў дзень правядзення TATTOO-FEST Наста Шпакоўская адзначала свой дзень народзінаў і прымала з гэтай нагоды шматлікія віншаванні як ад музыкаў, так і ад слухачоў.

Наступныя ўдзельнікі TATTOO-FEST'А — англамоўныя metal-гурты «VERSUS7», «CLAN», «EVTANAZIA A.D.», «EXEGUTOR» адрозніваліся толькі стылявымі нюансамі экстрэмальнай музыкі (меладэт, трэш, метал-кор) і тым, што рознымі шляхамі імкнуліся зрабіць якаснае рок-шоў. Адны з дапамогай хэдбэнінга (рытмічнага матляння доўгімі валасамі), другія каверамі на класікаў «JUDAS PRIEST» «Breaking the Law», выхадам да слухачоў на танцпол з гітарамі і мікрафонамі... Іншыя ж — сумеснымі трэкамі. Напрыклад, гурт «EXEGUTOR» з Аляксандрам Памідоравым стварылі хіт «Латруга», у якім сатырычнымі сродкамі высмейваецца прыхільнасць некаторых беларусаў да п'янства.

Shamanic-folk metal гурт «FOLCORE» здзівіў не першы раз. Такое ўжо здаралася на «Купальскім фэсце», калі каманда і яе лідар і гітарыст Павел скаралі слухачоў вулканічнай энергетыкай, і ў той жа час меладычнасцю і шчырасцю выканання кампазіцый, кшталту «Да зорак шлях». Гурт толькі выйгравае, запрашаючы такіх вакалістаў, як Э. Стэльмашонак, вядомай сталічным слухачам па гурту «OMUT». Дадатковую экспрэсію гучанню каманды надае нямецкая (шкада, не беларуская) дуда — дудэльзак. Трэба адзначыць, што сэт гурта «FOLCORE» стаў адным з самых яскравых і замацаваў каманду ў ліку адных з перспектыўных калектываў экстрэмальнага накірунку.

Ну а далей слухачоў чакаў сюрпрыз: падчас сэту гурта «ZNICH», калі музыканты і іх лідар Алесь Табліч выканалі шэраг хітоў з рэпертуару гэтай легенды айчыннага pagan-metal, на сцэну ўзняўся лідар гурта «LITVINTROLL» Андрэй Апановіч. Алесь Таболіч прапанаваў калегу па «металічнаму цэху» разам праспяваць колькі песень з рэпертуару «ZNICH». Гэта былі хітовыя кампазіцыі «Язычнік Я», «Крыжы-абярэгі». Дуэт Табліч — Апановіч надаў кампазіцыям новыя вакальныя фарбы і выклікаў у слухачоў шмат станоўчых эмоцый.

Трэба адзначыць, што на TATTOO-FEST была прадстаўлена рэдкае адгалінаванне бодзі-арта — body suspension — мастацтва падвешвання (!) жаночага цела. Гэтае шоў таксама прыцягнула шмат увагі наведвальнікаў клуба «RE:PUBLIC».

Як абяцалі арганізатары фэсту, па выніках інтэрнэт-галасавання былі адзначаны самыя выдатныя татуіроўкі беларускіх рок-музыкантаў. Дыпломы і кнігі «222 альбомы беларускага року і ня толькі...» былі ўручаны альбо накіраваны Максу з гурта «ZATOCZKA», З. Афанасенку з гурта «AMAROKA», Русі з гурта «SHUMA», С. Міхалку з гурта «BRUTTO», А. Таболічу з гурта «ZNICH» і іншым выканаўцам. Прыемна, што сумесная кніга аўтара гэтых радкоў і вядомага беларускага журналіста і рок-паэта В. Мартыненкі «222 альбомы беларускага року і ня толькі...» будзе радаваць тых выканаўцаў, якім яна прызначалася ад пачатку.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

ЗАРЭГІСТРАВАНА Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

ВЫДАВЕЦ Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1321

Падпісана да друку 3.10.2014. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.